
«Ева» ў Гародні→4

# Ніва


Федзя Амільяновіч→8

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 15 (3283) Год LXIV    Беласток, 14 красавіка 2019 г.    Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Кніжка вартая медаля!

**Гара Вышка з абарваным пясчаным бокам з дзіцячых гадоў распальвала маё ўяўленне. У бела-жоўтых пластах пяску хацелася ўбачыць абрысы царквы, якая, паводле легенды, праваліласяпраз зямлю. Сваякі даказвалі, што калі прыкласці вуха да зямлі, тады з глыбіні гары можна пачуць царкоўныя званы. У час дзяцінства горка на фоне нізіннага ландшафту здавалася яшчэ вышэйшай, загадкавай, манументальнай...**




Перад маімі вачыма манументальная манаграфія падбельскай вёскі — «Катлы на Літоўскім гасцінцы»*. Расповед, як можна здагадацца, пачынаецца з археалагічных звестак звязаных з гарой Вышкай і гацькаўскім гарадзішчам Замок. Раскопкі даказваюць існаванне тут населенага цэнтра ў перыядзе з V ст. да н.э. па XII ст. н.э. Цікава, што старажытныя продкі займаліся, між іншым, металургіяй і ювелірнай справай. Залатыя прадметы тут літаральна стагоддзямі валяліся на зямлі. Аўтары прыводзяць аповед пра сенсацыйную знаходку недалёка Вышкі на полі Яна Максімюка. У час ворыва гаспадар знайшоў корд з касцяной ручкай, аздоблены чырвоным каменем. Нож доўгі час праляжаў у шуфлядзе стала, аднак з-за недахопу ведаў быў выкінуты вяскоўцам на сметнік...

Хоць Уладзімір Кірылюк і Ян Мінкевіч робяць агаворку, што іх манаграфія пазбаўлена літаратурных каштоўнасцей, дык чытач думае інакш. Кніжка прыцягвае ўвагу з першых старонак (а іх усіх 376) і ў гэтым плане вытрымлівае да канца. Апрача грунтоўнай фактаграфіі чытач атрымлівае шчодрую дозу эмоцый. З першых радкоў перадаецца жывое захапленне роднай гісторыяй. На гэта ўплывае і фенаменальная памяць народжанага ў 1928 годзе Уладзіміра Кірылюка. Ва ўступным слове піша ён:

*— У часы дзяцінства я спаткаў многа людзей, якія нарадзіліся ў пяцідзясятых і шасцідзясятых гадах XIX стагоддзя і яны распавядалі мне пра часы прыгонніцтва. Людзі гаварылі мне пра будаўніцтва, пра прылады, якімі карысталіся ў гаспадарцы, як апрацоўвалі зямлю, як выглядала тагачаснае жыццё ў вёсцы...*

Шмат месца ў кніжцы займае «бежанства» і жыццё ў міжваеннай Польшчы, калі частка катлоўскіх сем'яў падалася ў Аргенціну. На чужыне прыналежалі яны да арганізацыі «Беларускі дом». Пры ўсім уражвае іх мабільнасць і частыя вяртанні на бацькаўшчыну. У каноне тагачаснай традыцыі было вярнуцца кавалеру ў сваю вёску па жонку. Аргенцінска-катлоўскія гісторыі адлюстраваныя на шматлікіх здымках.

Катлы назначыць трагедыя ад 9 чэрвеня 1928 года, калі ў Варшаве загіне савецкі амбасадар Пятро Войкаў. Загіне з рукі Барыса Каверды, байца родам з Катлоў. У вёсцы (а таксама і ў эміграцыі, куды пададуцца сваякі Барыса Каверды) прышпіляць яму клічку справядлівага мсціўца. Амбасадар Войкаў асабіста прымаў удзел у ліквідацыі сям'і цара Мікалая II.

Незвычайны ў кніжцы раздзел прысвечаны высылцы моладзі на прымусовыя работы ў Прусію. Гэты жудасны і малавядомы перыяд у гісторыі жыхароў Падляшша паказаны праз прызму лістоў і здымкаў, дасланых родным з няволі. Абмену інфармацыяй спрыяла беззаганная праца нямецкай пошты. Лісты з Кёнігсберга даходзілі ў Катлы за два дні (!). У пісьмах Марыі Савіцкай адчуваецца бязмежны сум па сям'і, сябрах. Я чытала словы кінутай на чужыну дзяўчыны і плакала як дзіця...

Пра ўніверсальнасць манаграфіі заяўляе апісанне пасляваенных гадоў у вёсцы. Кожны, хто нарадзіўся ў 50-я ці 60-я гады, прыкмеціць у катлоўскіх гісторыях рэха свайго вясковага дзяцінства, успомніць хаця б ручную пасадку бульбы, якую ў спеху кідалі кожныя 30 сантыметраў у разоры, якія заворваў бацька з канём. Вось, наклікала слова конь! Фрагменты, прысвечаныя сувязі каня і чалавека — чыстая лірыка ў кніжцы. Аўтары з адчуваннем і чуллівасцю, быццам у народнай песні, персаніфікуюць каня. Для катлоўскага мужчыны конь — гэта больш чым конь! Ён надзелены інтуіцыяй, розумам, індывідуальнымі прыкметамі. Знаёмства конскай справы, так сказаць, тут гістарычнае. З Катлоў выводзіліся сем'і, якія ад пакаленняў займаліся гандлем коньмі. Іх заўсёды можна было сустрэць у чацвер у Бельску на Конскім рынку, які знаходзіўся па вуліцы Жвіркі і Вігуры.

Вартасць кніжкі заключаецца і ў непрыхаршанай непасрэднасці апісання народных абрадаў, такіх як адведкі, хрысціны, вяселле, мярліны, провады хлопца ў армію, калядаванне ці велікоднае качанне яек (якіх ілюструе ніўскі здымак майго дзядзькі Андрэя Гаўрылюка).

Уразілі і спартовыя ініцыятывы мясцовай моладзі, якія сваю футбольную каманду назвалі «Ніўка». Трэба дадаць, аўтары часта спасылаюцца на ніўскія публікацыі, а таксама друкуюць ліст у «Зорку» з 1972 года:

*«Дарагая «Зорачка»!*

*У нашым класе 13 вучняў. Усе мы вывучаем беларускую мову. На ўроках мы з захапленнем чытаем «Зорку», мы любім апавяданні, вершы, часта адгадваем загадкі.*
*Я вучуся добра. Часта пазычаю кніжкі ў бібліятэцы, бо вельмі люблю чытаць.*
*Лена Мацеюк, вучаніца 5 класа, Катлы.*

Надта істотнае і адначасова сямейнае завяршэнне кніжкі «Катлы на Літоўскім гасцінцы». Тут даюцца нумары ўчасткаў і пералік жыхароў хат з XIX стагоддзя.

Ужо з-за такой дэталі кожны ўраджэнец вёскі захоча мець кніжку на сваёй паліцы. Катлоўскія гісторыі і сам гасцінец для мяне асабіста блізкія праз маці, якая нарадзілася і дарастала ў недалёкім хутары Шэвэлі. Адна з расказваных ёю легенд датычыла свята на Ільяша, якое ад вякоў святкавалі ў Грыневічах. У наваколлі верылі, што ў гэты дзень абавязкова абрываецца бура з маланкамі і перунамі. І зноў нехта з людзей, звяроў загіне ад маланкі або згараць будынкі.

У кніжцы змешчаны інфармацыі наконт частых пажараў і трагедый ад маланак, хаця яны не прымеркаваны да прыхадскога свята Ілы. Затое ўсё там прымеркаванае да нашага жыцця, краявіду, менталітэту. Яну Мінкевічу і Уладзіміру Кірылюку (а таксама ананімным сааўтарам) належацца шчырыя словы падзякі і залаты медаль. Яны запісалі гістарычны і сучасны паток жыцця не толькі сваёй вёскі, але ўсёй Бельшчыны і Падляшша.

Ян Мінкевіч ва ўступным слове так заахвочвае прачытаць кніжку (тут жа і спроба аўтарскага стылю):

Pamiętajmy, że życie składa się z chwil trudnych i smutnych, ale również pięknych i radosnych. Po momentach trudnych przychodzą radosne i wzniosłe. Niech lektura tej książki dla mieszkańców sołectwa Kotły oraz osób o kotłowskim rodowodzie stanie się chwilą radosną. Książkę kierujemy do wszystkich tych, którzy zatroskani codziennością z braku czasu nie mogą odnaleźć swoich korzeni, głęboko wrośniętych w bielsko-podlaską ziemię. Warto o tych korzeniach pamiętać.

Należy być dumnym z niepowtarzalnej, prawosławnej kultury duchowej i pięknej, chociaż powikłanej, białoruskiej tradycji historycznej na Podlasiu. Kultywujmy nasze pieśni, zwyczaje obrzędy, ciesząc się ich pięknem. Nie zapomnijmy naszej ruskiej mowy, języka naszych rodziców i dziadków, chłopów i mieszczan, bojarów i szlachty, strzelców i osoczników, wielkich książąt i królów. Rozmawiajmy w swoim języku z naszymi dziećmi i wnukami, a błogosławione będą lata życia naszego.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

* Jan Minkiewicz, Włodzimierz Kiryluk, *Kotły na Gościńcu Litewskim*, Muzeum Małej Ojczyzny w Studziwodach 2018.





# Што робіцца?

— Што там робіцца ва Украіне? — проста на выхадзе з ліфта рэзка спыніў мяне сусед такім нечаканым і як з пісталета стрэленым пытаннем, што з ім можа паспаборнічаць толькі наезд Астапа Бэндэра на айца Фёдара, калі ён пытаўся ў таго, колькі каштуе опіум для народа. Ды яшчэ з такой інтанацыяй задаў мне пытанне сусед, што гэтаму персанажу пазайздросцілі б самыя стваральнікі таго Бэндэра — Ільф і Пятроў. І я, папраўдзе кажучы, быў бы вельмі збянтэжаны такой рэзкасцю і актыўнасцю далёка не палітызаванага чалавека, калі б ужо некалі раней не чуў з яго вуснаў дакладна такога ж пытання, толькі тычылася яно не Украіны, а ЗША.

Я тады адказаў яму пытаннем на пытанне. Папрасіў абгрунтаваць, чаму яго цікавяць выбары ў Амерыцы, а не свае. Бо на беларускія выбары ён не хадзіў ні разу прынцыпова.

Адказ я атрымаў неадкладна, і нават на яго аснове цэлы фельетон напісаў. Бо як мне патлумачыў сусед, ад выбараў у Амерыцы залежыць усё на свеце, а ад выбараў у любой іншай краіне не залежыць нічога. Ну так ён кораценька вытлумачыў сваё бачанне свету, падняўшы палец угору для большай канцэнтрацыі маёй увагі на настолькі відавочным на яго думку факце. Вось таму, нібыта, выбары там у ЗША цікавыя для яго, а ў іншым месцы няма розніцы хто іх выйграе, і справядліва іх выйграе ці зусім наадварот.

І вось зараз гэтага чалавека, які тлумачыў, што толькі амерыканскія выбары ёсць важнымі, зацікавілі выбары яшчэ ў адной дзяржаве! Ва Украіне! Ну не, тут трэба адкінуць усе справы і пагаварыць з настолькі заангажаваным у справы паўднёвых суседзяў Беларусі чалавекам.

— А табе не ўсё адно? — правакую я яго на больш разгорнутую версію таго лаканічнага пытання.

— Ну ты і скажаш, усё адно! — пакрыўдзіўся той. — Ясна, што мне не ўсё роўна. Хочацца, каб украінцы зажылі добра. Бо ў нас работы знайсці нармальнай не магу. А як украінцы зажывуць па-людску, можна будзе там паспрабаваць. У нас жа з імі віз няма.

Я на нейкі час аслупянеў — чакаў атрымаць які заўгодна адказ, толькі не такі.

— Слухай, — кажу, — яны там самі работу за мяжой шукаюць. Ты што, не ведаеш?

— Ды ўсё я ведаю, — абураецца суразмоўца. — У іх віз з Еўропай няма, вось і едуць туды. Там больш плацяць. Таму нават калі ў іх жыццё наладзіцца, вяртацца наўрад ці будуць. Вось мы туды і паедзем.

Я зразумеў нарэшце, чаму не стаў удалым палітыкам. Трэба спачатку так навучыцца думаць, ці хаця б дапускаць магчымасць, што нехта так можа думаць. І толькі тады ўжо лезці ў палітыку.

Але праз хвілінку я ўсё ж вырашыў хоць крыху рэабілітаваць сябе ў сваіх жа вачах, і даказаць, што і на публічным полі нечага варты. Таму гэтак жа рэзка і нечакана, як мяне спыніў пытаннем сусед на выхадзе з ліфта, бянтэжу яго сваім:

— Дык украінцы як толькі зажывуць лепш, адразу ўвядуць візы. Так зрабілі ўсе, хто стаў жыць лепш, і палякі, да якіх мы некалі без віз ездзілі, і нават літоўцы, з якімі ў адной краіне былі зусім нядаўна.

Сусед задумаўся. Выйшаў ён са стану задумлівасці праз моцны трохпавярховы мат, і, толькі добра адмацюкаўшыся, заявіў зноў жа не без разбаўлення мясцовага гарадзенскага дыялекту словамі, якія я без яго дазволу заміняў на літаратурныя:

— Ну вось, блін, хіба што прыйдзецца ісці на свае выбары, каб яны накрыліся медным тазікам! А не падкажаш, калі ў нас будуць тыя, блін, выбары?

У гэты час я захацеў крыкнуць „Слава Украіне!!!". Бо практычна ніхто раней мне гэтага пытання не задаваў. Як бы нікога не цікавіла, калі ў нас тыя выбары. І нават сусед, тады, калі адукоўваў мяне пра вартасць толькі амерыканскіх выбараў, не пытаўся, калі яны будуць у нас. А зараз, пасля ўкраінскіх, спытаў, хоць быў гэта толькі першы тур выбараў на той Украіне і невядома чым яны закончацца і тым больш невядома, што і як будзе пасля іх. Але ўсё адно цікавасць з'явілася. І думаю, не ў яго аднаго.

Напачатку я хацеў сказаць, што як у нас будуць выбары, то я яму абавязкова паведамлю пра тое. Але пасля да мяне дайшло, што гэтым разам ён і сам даведаецца. Таму сказаў проста, як думаю:

— А ў нас могуць і не пачацца.

— Што тут робіцца ў нас? — уздыхнуў сусед.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Шакалад і геконы



З-за адсутнасці лепшага я еў у дзяцінстве шакалад «Падобны». Мне ён не смакаваў, але я не крывіўся. Назва «Падобны» была гэтак жа дрэнная, як і сам прадукт, — у якім было — бадай толькі 20 працэнтаў або нават менш чыстага шакаладу. Тым не менш, ён меў смак — шакаладу або чагосьці падобнага, што ў дні позняй гамулкоўшчыны ўздымала яго да ўзроўню далікатэсу. Няважна, наколькі гэты прадукт быў падобны на шакалад. Праз дзесяць гадоў з'явіўся ў крамах адкрыта шакалад-прадукт пад назвай «Шакалад спажывецкі». Быў ён вельмі «пукатворны». Колер яго быў шакаладны, без грама шакаладнага тлушчу, — салодкі — а чаго ж тут хацець, калі цукар па талонах?! Але ж яго смак незваротна звязаны з часам маёй маладосці. І з маёй школьнай мянушкай, даволі арыгінальнай. Анекдота пра яе я не магу працытаваць, без спасылкі на Уладзя Ц., майго сябра ад пачатковай школы, праз ліцэй і ўсе дарослыя гады да яго нядаўняй смерці.

У пачатковай школе розныя мянушкі ў школе даваў мне і распаўсюджваў Уладзя, — праяўляючы ў галіне анамастыкі вялікі талент. Смешныя і трапныя. Пасля таго як мы пайшлі ў ліцэй, усе яны звялі, нягледзячы на энергічныя высілкі майго сябра, каб ажывіць іх сярод новых калег. Ён проста біўся галавой аб мур. У новай школе мы ўсе былі ананімнымі ды — інстынктыўна хацелі застацца такімі, фігурамі без уласцівасцей і без вопыту агульнай ідэнтычнасці. Мы былі падазронымі і вельмі асцярожнымі. Кіндэрштуба «ўраўнілаўкі» таго часу, канца гамулкоўшчыны і пачатку геркаўшчыны, адціснула на нас — глыбокі след. Уладзю аднак не мінула анамастычная стараннасць. Неўзабаве я павінен быў аб гэтым пераканацца.

Вось сядзім мы ў мяне дома і сумуем. Мой бацькоўскі дом літаральна быў перапоўнены кнігамі, мой сябар перабіраў паміж імі як хацеў, але больш пры адсутнасці бацькоў, калі мог свабодна прагладаць і «Мастацтва любові», і альбом з эратычнымі малюнкамі Маі Беразоўскай, і анатамічны атлас чалавека. Аднойчы, калі перачытваў «Малую энцыклапедыю прыроды», натрапіў на спіс трапічных жывёл. Адразу ж — захапіўся — назвай экзатычнай яшчаркі. «Ад сёння ты Гекон!» — узвыў ад захаплення Уладзя, якому, відаць, тая назва здалася такой жа экзатычнай, як і мая персона. Я прызнаюся, што і самому мне тады здавалася, магчыма, нават і сёння, што я экзатычны экземпляр чалавека. Новая мянушка, аднак, не спадабалася мне і я рэзка аблаяў сябра. Мой усплёск, аднак, быў пацвярджэннем Уладзевай імгненнай перавагі нада мною. І тады я гэта бачыў, і цяпер. Мы балансаваліся бесперапынна паміж тым, што звязвала нас нашай дружбай, тым, што я назваў бы сёння чалавечай сімпатыяй, і тым, што мы не маглі сфармуляваць у той час, што з'яўляецца натуральным саперніцтвам юнакоў. Таму не шкадавалі мы сабе дробных кпінаў. Але дзякуючы ім мы маглі бачыць адзін аднаго з адлегласці, зведаць межы цярпімасці адзін да аднаго, і перш за ўсё ўдасканальваць мастацтва рэзкай рэплікі. Так Уладзя, не без школьніцкага прыколу, прыклеіў да майго школьнага іміджу яшчарнае імя, і хоць я яго саскрэбваў кожны раз, Уладзя ўсё прыклейваў да мяне гэтага Гекона — на вачах і вушах нашых калег, лопаючы ад смеху. Я здаўся. У другім трыместры першага года ліцэя мянушка прыжылася да мяне пастаянна, і як ні дзіўна, нават пачала мне падабацца. Свайго прозвішча і імя — я не любіў таму што ў мяне было такое перакананне, што яны закароткія і здзіманаваныя злавесным гукам «р», асабліва вібрыруючым, калі мяне выклікалі да дошкі. Некаторыя настаўнікі пачалі праз нейкі час звяртацца да мяне «Гекон»! Да дошкі я ляцеў амаль як на крылах. Іншая справа, што і так я вяртаўся да парты, валачыўшы тыя крылы па падлозе.

Геконам я быў да канца ліцэя, але пасля мала хто з маіх знаёмых называў мяне інакш. Нават сёння. Несумненна, у гэтым вялікі ўклад Уладзя. — Для яго я заўсёды быў Гекон і так ён мяне велічаў у сваіх сямейных і кампанейскіх колах. Нават яго мама і, што смяшней, яго дарослы сын звярталіся да мяне «Гекон». Мы абодва ў ліцэі неўзабаве сталі вядомыя як Геконы. Мяне называлі Геконам Першым, а Уладзю — Геконам Другім. Той другі нумар вельмі яго зняважаў. Мне той Гекон таксама быў не ў смак. Хоць з іншага боку... Як хацелася б яшчэ раз пачуць прывітанне: «Гэй, Гекон»! І яшчэ раз пакаштаваць — «Падобнага» шакаладу.

**Міраслаў ГРЫКА**

## Сваімі вачыма

# Прыніжаны народ




Калі тыдзень таму назад пісаў я пра годнасць і свабоду так важную для гістарычнай памяці, то не верылася мне, што напярэдадні Дабравешчання Гасподняга ў Курапатах па загадзе ўлад будзе зрэзаных... семдзесят крыжоў у памяць расстраляных там камуністычнымі органамі дзясяткаў тысяч нявінных людзей. Такое варварства і нелюбоў да чалавецтва цяжка сабе ўявіць — у любым яго вымярэнні, не толькі хрысціянскім. Здавалася б, што з боку ўсіх беларусаў, нягледзячы на палітычныя погляды, месцы ўладарання і пражывання, тым ахвярам належыцца вечная памяць і спакой. Неўзабаве Вялікдзень, Радаўніца — святы памінання сваіх продкаў. Але як мы выглядаем, калі на вачах бацькоў і дзядоў, дзяцей і ўнукаў сваімі рукамі разбураем тое, што з'яўляецца сімвалам нашай хрысціянскай і чалавечай веры? Уявіце сабе, калі б такое здарылася з магіламі Вашых продкаў так Вамі дагляданымі, на якія паломнічаеце прынамсі раз у год. Таксама маўчалі б, апусціўшы галовы і вочы без слова пратэсту? Бо так захацела ўлада? Гісторыя і палітыка бязлітасныя да такіх нацыянальных паводзін. Жудасна і сорамна. Рашэнні разбурыць, раз'яднаць народ і дзяржаву паднятыя хіба толькі за д'ябальскім указаннем. Толькі супольны пратэст усіх нас, беларусаў, незалежна ад месца пражывання, канфесіі і поглядаў павінен устанавіць шчыт перад такім дзікунствам і хваробай, якую завуць антычалавецтвам.

**Яўген ВАПА**

7 красавікаа ў Мінску ля Свята-Духава кафедральнага сабора на плошчы Свабоды прайшоў малебен за забітых у Курапатах і ў абарону хрысціянскай веры. Ініцыятара акцыі — лідара Беларускага Нацыянальнага Кангрэса Мікалая Статкевіча — затрымалі за гадзіну да яго пачатку. На дадзены момант яго лёс невядомы.

Прапануем вашай увазе зварот **Мікалая Статкевіча**, з якім ён збіраўся выступіць падчас малебна. Зварот быў зачытаны паплечнікамі лідара БНК:

Мы раз'яднаныя. Таму падступны верхавод робіць з намі, што яму заўгодна.

Мы супакойваем сябе, калі працаўнікам плацяць нікчэмныя грошы, на якія немагчыма пражыць — нам жа плацяць больш.

Калі падвышаюць пенсійны ўзрост і амаль не падвышаюць жабрацкія пенсіі — нам жа яшчэ далёка да пенсійнага ўзросту.

Калі абкладваюць паборамі беспрацоўных — у нас жа ёсць афіцыйная праца.

Калі адбіраюць дзяцей з бедных шматдзетных сем'яў (а большасць шматдзетных становяцца беднымі) — у нас жа няма столькі дзяцей.

Калі «праваахоўнікі» здзекуюцца з тых, што патрапілі ў іх рукі — нас жа яшчэ не чапалі.

Калі падчас крыжапаклоннага тыдня Вялікага посту падступны кіраўнік, які (вы заўважылі?) ніколі не хрысціцца ў храмах, апаганьвае галоўны сімвал хрысціянскай веры — мы ж не ходзім у царкву.

Ніхто іншы не прынясе нам вызвалення ад злачынца пры ўладзе, не падорыць нам годнага жыцця — ні Пуцін, ні NATO. Нам давядзецца развязаць гэтае пытанне самім. А для пачатку трэба зразумець — мы адзіны народ. І бяда ў нас агульная — мы трапілі пад уладу злога.

Усе мы браты і сёстры ў гэтай агульнай бядзе. Боль і прыніжэнне кожнага — гэта ўсеагульны боль. І апаганьванне хрысціянскага крыжа — гэта абраза ўсяго нашага народа, нашай памяці, нашых продкаў. Гэта абраза кожнага з нас.

Сёння я прапаную супольную малітву за збаўленне ад злога.

Хто не ведае: «... збаў нас ад злога» — гэта заканчэнне Хрыстовай малітвы «Ойча наш».

Калі нас збярэцца дастаткова, малітва абавязкова дапаможа.

Мы — адзін народ. Толькі разам мы зможам вярнуць сабе свабоду і годнасць.

Слава Ісусу Хрысту!

**Жыве Беларусь!**

# Дасканалы дэкламатары!

Дэкламатары цэнтральных спаборніцтваў 48 Дэкламатарскага конкурсу на беларускай мове «Роднае слова» 22 сакавіка захапілі ў Бельскім доме культуры высокім мастацкім узроўнем выступаў. У Бельск прыехалі каля 130 самых лепшых дэкламатараў, якія перамаглі ў раённых адборах, дзе выступіла некалькі соцень удзельнікаў, у тым ліку дашкольнікі, вучні падставовых школ і гімназісты трэціх класаў. Ёсць дзеткі і моладзь, якія з году ў год займаюць пераможныя месцы падчас цэнтральных спаборніцтваў конкурсу «Роднае слова». Да гэтага спрычыняюцца іх здольнасці, а таксама адпаведная і доўгая праца настаўніка з вучнем, падбор цікавых, адпаведных да ўзросту дэкламатара тэкстаў і салідная праца вучня ў час падрыхтоўкі. У выпадку дашкольнікаў, але таксама і малодшых вучняў пачатковых школ, вялікае значэнне можа мець таксама праца бацькоў, калі тыя ведаюць беларускую мову і разбіраюцца ў дэкламацыі.

— З году ў год па некалькі соцень вучняў прыступае да конкурсу «Роднае слова». Узровень дэкламацыі сёлета высокі і вельмі важнае, што дзеткі і моладзь патрапілі ўмела інтэрпрэтаваць дэкламаваныя творы. Паказваюць яны сваю інтэрпрэтацыю беларускай паэзіі, але важная тут роля настаўнікаў, якія ўмеюць прывіваць любоў да беларускай мовы і паэзіі, — заявіў старшыня конкурснай камісіі Васіль Сегень, віцэ-старшыня БГКТ, якое ў арганізацыі конкурсу ўспамагала Таварыства беларускай культуры.

Ужо традыцыйна першымі з вершыкамі выступілі дашкольнікі, якія зацікавілі сабраных сваімі шчырымі, адважнымі і запрэзентаванымі на прыстойным узроўні дэкламацыямі. Прыехалі яны з самаўрадавых і непублічных прадшколляў у Беластоку, Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы. На конкурс прыязджаюць таксама дашкольнікі з вясковых гмін. Сёлета да цэнтральных спаборніцтваў дайшла дашкольніца з Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве, у якой вядуцца заняткі з малечамі. Вучні падставовых школ змагаліся за перамогу ў трох катэгорыях. Цікава дэкламавалі вучні малодшай і сярэдняй груп (разам ажно звыш васьмідзесяці асоб) і старэйшыя вучні падставовых школ, якія ацэньваліся ў адной катэгорыі з трэцякласнікамі гімназій, якія згодна з новай рэформай асветы дзейнічаюць апошні год.

— Вельмі важна падабраць для дэкламацыі тэкст адпаведны да ўзросту, тэмпераменту і зацікаўлення вучня. Пры падборцы вершаў карыстаемся беларускімі кніжкамі і інтэрнэтам. Ахвотных дэкламаваць па-беларуску ёсць многа, паколькі нашы дзеткі любяць выступаць перад публікай і з нецярплівасцю чакаюць конкурсу, — сказалі настаўніцы беларускай мовы — апякункі юных дэкламатараў.

На цэнтральныя спаборніцтвы дэкламатарскага конкурсу прывезлі сваіх дзетак таксама бацькі. Частка з іх займалася падрыхтоўкай сваіх дочак і сыноў да дэкламацыі і хацелі паглядзець на рэзультат сваёй працы і на выступы іншых дэкламатараў, каб зрабіць высновы для падрыхтоўкі ў наступным годзе. Частка дзетак і моладзі цікавілася выступленнямі сяброў і з вялікай увагай сачылі за імі.

— Слухаючы калег мы вучымся не толькі правільнай дэкламацыі, але таксама можам параўнаць розныя выкананні падобных твораў, — гаварылі дэкламатары.

Мікола Абрамюк з Непублічнай падставовай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку заявіў, што вельмі любіць вучыцца па-беларуску, хадзіць на заняткі па беларускай мове і прыступае да конкурсаў на роднай мове. У прадметным конкурсе беларускай мовы стаў ён лаўрэатам, а ў дэкламатарскім конкурсе выступіў па-акцёрску.

— У нашай школе многа вучняў прыступае да конкурсу «Роднае слова». Сёння прыехала адзінаццаць нашых дэкламатараў. Я карыстаюся рознымі крыніцамі і стараюся вышукваць штораз новы рэпертуар нашым дзеткам. Але ёсць такія творы, як «Ікона» Анны Бяляўскай, якія вучні вельмі хочуць дэкламаваць штогод. Тэксты я вышукваю такія, каб перш за ўсё спадабаліся вучням, але і падыходзілі да іх тэмпераменту, бо гэта вельмі важнае, — заявіла настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко з НПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.



■ Дамініка Лепай з ПШ № 4 у Беластоку


■ Мікола Абрамюк з НПШ свсв. КіМ ў Беластоку


■ Мартына Белавежац з ПШ у Чыжах


■ Алівія Жэпка са Школьнага комплексу ў Нарве


■ Зофія Філіпюк з ПШ № 3 у Гайнаўцы


■ Гося Галёнка з Гайнаўскай белгімназіі


■ Давід Дзікоўскі з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім

Настаўніцы беларускай мовы са школ у Арэшкаве, Орлі і ПШ № 2 у Гайнаўцы — Ірэна Герасімюк, Анна Франкоўская і Аліна Якімюк сказалі, што іх вучні таксама ахвотна прыступаюць да конкурсу «Роднае слова», а больш здольныя часта дабіваюцца поспехаў на цэнтральным узроўні. Я заўважыў, што пастаянныя ўдзельнікі цэнтральных спаборніцтваў вельмі ўважліва сочаць за выступамі іншых канкурсантаў. Гося Галёнка дэкламавала з першых класаў вучобы ў ПШ у Арэшкаве, а зараз паспяхова прадстаўляе Гайнаўскую белгімназію.

— Я вельмі люблю дэкламаваць і таму штогод прыступаю да конкурсу «Роднае слова». Падабаецца мне таксама конкурс «Беларуская гавэнда». У абодвух выпадках люблю дынамічна выступаць з жартоўнымі тэкстамі. Іншыя вучні любяць дэкламаваць рэфлексійныя творы і вельмі важна, каб дапасаваць тэкст да тэмпераменту выступаючай асобы, — сказала Гося Галёнка з Гайнаўскай белгімназіі, якая заняла другое месца.

Яе школьны сябра Якуб Казімірук пачаў дэкламаваць, будучы вучнем школы ў Навакорніне. Цяпер як вучань белгімназіі працягвае дэкламаваць і расказваць падчас «Беларускай гавэнды».

— Спачатку трэба вучням растлумачыць змест твораў, навучыць правільнаму вымаўленню слоў, каб не рабілі памылак у акцэнтуацыі. Пазней вучацца яны інтэрпрэтацыі твораў. Патрэбная яшчэ адвага выступіць перад публікай. Сёння вельмі высокі ўзровень дэкламацыі ва ўсіх катэгорыях і аб перамозе будуць вырашаць дэталі, — сказала настаўніца беларускай мовы ў ПШ № 4 у Гайнаўцы Беата Кендысь, якой дачка Магдаліна ўдала дэкламавала падчас цэнтральных спаборніцтваў.

— Спачатку я вучу нашых дзетак падставам дэкламацыі, а пазней яны набіраюць вопыту і, калі салідна рыхтуюцца да конкурсаў, з часам пачынаюць перамагаць. Калі вучні вельмі таленавітыя, могуць адразу дабіцца перамогі, — сказала настаўніца беларускай мовы са школы ў Нарве Ніна Абрамюк. — Мая вучаніца Алівія Жэпка дэкламуе здаўна, а браты Кутузавы пачалі дэкламаваць пазней і ўсе праяўляюць здольнасці да дэкламацыі.

— Мы супольна з нашай настаўніцай Нінай Абрамюк падбіраем творы да дэкламацыі. Яна вучыць нас правільна дэкламаваць, падказвае на што асабліва звярнуць увагу, каб выступ атрымаўся ўдалым, — заявілі браты Марк і Уладыслаў Кутузавы.

— У бельскай «тройцы» вельмі многа вучняў прыступае да конкурсу. Спачатку робім школьныя адборы, затым удзельнічаем у раённых, якія таксама адбываюцца ў нашай школе. Ёсць дэкламатары, якія штогод прыступаюць да конкурсу і часта дабіваюцца поспехаў, — гаварыла настаўніца беларускай мовы ў «тройцы» Валянціна Бабулевіч.

— Мы любім дэкламаваць і ўжо звыкліся выступаць перад публікай. Аднак вельмі важнае перадаць, як мы разумеем і адчуваем тое, што дэкламуем, — заявілі найстарэйшыя вучні бельскай «тройкі», з ліку якіх самае высокае другое месца заняў Давід Дзікоўскі.

— Я толькі з пачатку гэтага школьнага года пачала вучыцца беларускай мове ў сваёй школе, паколькі хачу паступіць у белліцэй. Аднак я раней удзельнічала ў конкурсе «Беларуская песня», спявала сола і ў калектыве Студыі песні ГДК. Мне падабаецца таксама дэкламацыя і таму рашылася выступаць, — сказала Зося Філіпюк з ПШ № 3 у Гайнаўцы.

Мартына Белавежац са школы ў Чыжах дэкламуе па-беларуску здаўна і робіць гэта ўдала. Пазней пачала яна таксама спяваць у Студыі песні ГДК і ў абодвух беларускіх конкурсах дабіваецца поспехаў, аб чым распавядала яе мама Іаанна Белавежац.

Конкурс «Роднае слова» ўдала вяла дырэктар Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік. Журы, у якім працавалі Васіль Сегень, Юрка Баена і Яніна Плютовіч, падвяло вынікі дэкламатарскага конкурсу. Звыш пяцідзесяці дэкламатарам былі прызначаны ўзнагароды, а звыш дзесяці — вылучэнні. З ліку дашкольнікаў першыя месцы занялі **Ксенія Граматовіч** з Непублічнага садка № 1 імя св. Дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім, **Дамініка Сцепанюк** і **Лейсан Лепай** з Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку. У катэгорыі вучняў першых трох класаў пачатковых школ першыя месцы занялі **Зузанна Міранкевіч** з бельскай «тройкі», **Магдаліна Кендысь** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Дамініка Лепай** з ПШ № 4 у Беластоку і **Габрыель Якімюк** з НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Сярод вучняў з чацвёртага па шосты клас пераможцамі першых месцаў сталі **Мікола Абрамюк** з НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Алівія Жэпка** са Школьна-дашкольнага комплексу ў Нарве і **Мартына Гэраз** з бельскай «тройкі». У катэгорыі вучняў сёмага, восьмага класаў ПШ і гімназістаў трэціх класаў першымі сталі **Мартына Белавежац** з ПШ у Чыжах, **Зофія Філіпюк** з ПШ № 3 у Гайнаўцы і **Марк Кутузаў** са Школьна-дашкольнага комплексу ў Нарве.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

## Аб чаромхаўскай культуры (5)

Заснаванне дома культуры «Калеяж» — адзінай культурнай установы ў чыгуначным пасёлку бярэ пачатак з 1960 года. Гэта была ідэя рабочага калектыву і мясцовых улад. Неабходныя будаўнічыя матэрыялы і фінансавую дапамогу забяспечыла Цэнтральная дырэкцыя ПКП у Варшаве, рабочую сілу — працаўнікі чыгуначных прадпрыемстваў. Можна сказаць, што «Калеяж» вырастаў на грамадскіх пачатках. Два гады самаахвярнай працы завяршыліся здачай у карыстанне ў кастрычніку 1962 года прыгожага культурнага аб'екта. Кіраўніком дома культуры быў назначаны Мікалай Гарадкевіч — самаадданы культурны дзеяч, ініцыятар шматлікіх ініцыятыў. Ужо ў першых пачатках арганізаваў ён музычны гурток, якім кіраваў Вальдэмар Савіцкі, а ў 1977 годзе быў ім створаны духавы аркестр. Тамара Кердалевіч, якая пачала працаваць інструктарам з 1977 года, пры канцы гэтага ж года арганізавала лялечны тэатр. Падбірала рэпертуар, была рэжысёрам пастановак. Разам з вучнямі пачатковай школы выконвала лялькі. Са сваім тэатрам тры разы ўдзельнічала ў аглядах лялечных тэатраў і займала вядучае месца. Раз чаромхаўскія лялечнікі выступілі ў Беластоцкім тэатры «Свершч». У канцы 1977 года настаўнік Сяргей Смык арганізаваў пластычны гурток. Працы чаромхаўскага мастака прэзентаваліся на аглядах і выстаўках чыгуначных мастакоў-самадзейнікаў у Варшаве і Тарноўскіх Гурах. Яго вучнем быў Андрэй Міркоўскі, які набыў вядомасць спецыяліста па графіцы і лінагравюры ў катэгорыі мастакоў-непрафесіяналаў на Гайнаўшчыне.

У час рэструктурызацыі чыгункі Цэнтральная дырэкцыя ПКП у Варшаве абмежавала датацыі для «Калеяжа». Гэта пагражала банкруцтвам для чаромхаўскай культурнай адзінкі. Гмінны самаўрад не мог на гэта дазволіць. У ходзе перагавораў гміна за даўгі пераняла дом культуры «Калеяж». З 1 мая 1993 года гэты аб'ект прыняў назву Гмінны асяродак культуры. У далейшым ходзе ў Гмінным асяродку працаваў музычны гурток, якім займаліся тры інструктары: Вальдэмар Савіцкі, Барбара Кузуб і Юзэф Коркус. У гуртку дзеці вучыліся іграць на гітары і акардэоне. У занятках удзельнічала дваццаць дзетак. Чаромхаўскаму ГАКу, як і іншым падобным установам, не хапала грошай на рэалізацыю статутных задач. Узнікла ідэя заняцца гаспадарчай дзейнасцю. У выніку арганізавалі мінікафейку і пункт пракату фільмаў. Неўзабаве павялічыўся працоўны калектыў чаромхаўскага цэнтра культуры да чатырох штатаў: дырэктара, бібліятэкара і двух інструктараў. Усе яны лічыліся працаўнікамі гміны. Кожную нядзелю ў ГАК арганізавалі дыскатэкі. Для лакальнай грамадскасці дазволена арганізаваць у клубе вяселлі. Атрымаўся значны прыбытак за арэнду памяшкання і двухбаковая карысць — дырэктару грашовы прыбытак, а арганізатару вясельнай імпрэзы — выгада і раздолле ў забаве ды пазбяганне балагану ў хаце.

У кастрычніку 1993 года паравознае дэпо з насычальняй арганізавалі Дзень сеньёра на сто чалавек. Пасля выступалі кабарэ Багдана Смоленя і калектыў з Крынак. Артысты былі цёпла ўспрыняты чаромхаўскай публікай. Можна сказаць, што чыгуначнаму пасёлку «перастройка» дома культуры «Калеяж» на Гмінны цэнтр культуры паспрыяла.

(працяг будзе)
Уладзімір СІДАРУК




# У Гародні з'явіцца кавярня «Ева» ў гонар бургамістра Саколкі Евы Кулікоўскай

**Саколка і Гародня супольна рэалізуюць транспамежны праект «Шлях Тызенгаўза». У рамках супрацоўніцтва будуць адноўлены старадаўнія камяніцы, паўстануць таксама роварныя сцежкі з інфармацыяй пра вартыя наведвання месцы Сакольшчыны. Пра паспяховую супрацу Саколкі і Гародні будзе сведчыць таксама новая гарадзенская кавярня «Кафэ Ева». Аб праекце, чарговых планах трансгранічнага супрацоўніцтва і беларусаў Сакольшчыны «Ніва» размаўляе з бургамістр Саколкі ЕВАЙ КУЛІКОЎСКАЙ.**



**— Пад канец лютага Вы гасцілі ў Саколцы мэра Гародні Мячыслава Гоя. Размовы тычыліся супольна рэалізаванага трансгранічнага праекта «Шлях Тызенгаўза».**

— Мэр Гародні асабіста прыехаў, каб дапільнаваць апошніх працэдурных работ, звязаных са «Шляхам Тызенгаўза». Аднак у час гэтага візіту нарадзіліся новыя думкі.

**— Можаце ўжо імі падзяліцца з чытачамі «Нівы»?**

— Так. Саколка — горад блізкі сэрцу Гародні, і наадварот. Нашы жыхары маюць падобныя патрэбы. Зараз хочам супольна заняцца аховай прыроды. Значыцца, па нашым баку і на Гарадзеншчыне хочам пабудаваць звалкі смецця. Маем такое ў Карчах, але з гэтым месцам увесь час узнікаюць праблемы. Падобную сітуацыю мае Гародня. Там сваё смецце возяць ажно пад Мінск. Чакаем новых трансгранічных праектаў. Будзем ісці ў напрамку аховы прыроды. Можа гэта не так эфектнае, але на доўгія гады дасць спакой жыхарам Гародні і Саколкі. Хочам добраўпарадкаваць некалькі дзясяткаў гектараў зямлі, дзе можна было б складваць смецце. Зараз гміна прабуе пераняць кантроль над гэтай тэрыторыяй, але справы вырашаюцца ўжо ў судах. Мне залежыць, каб нашы жыхары маглі бяспечна піць ваду, маючы гарантыю, што ў ёй няма нічога ад гэтага смецця, якое неадпаведна складваецца.


■ Камяніца Тызенгаўза ў Саколцы

**— Як гэта будзе выглядаць на беларускім баку?**

— Гародня таксама мае велізарныя патрэбы і напэўна большыя грошы пойдуць на Гародню. Вядома, Саколка — горад, а Гародня — метраполія. Усё-такі нашы праекты вельмі ўдалыя, заўсёды карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Не ведаю выпадку, каб нехта іншы сягаў па сродкі на трансгранічныя праекты на ахову прыроды. Мы будзем ініцыятарамі і гэта будзе нешта інавацыйнае. Перш за ўсё ідзе пра гэта, каб жыхары Гародні і Саколкі бяспечна сябе адчувалі. А на гэтым і мне, і мэру Гародні вельмі залежыць.

**— У час візіту мэра Гародні Вы таксама размаўлялі аб праекце «Шлях Тызенгаўза», на які ўдалося атрымаць каля 2 мільёнаў еўра. Калі рушаць работы?**

— Візіт мэра Гародні ў Саколцы быў вынікам таго, што мы яшчэ не атрымалі грошай з міністэрства. Пад канец лютага трапіў да нас першы транш грошай. Таму мы маглі афіцыйна дзейнічаць з 1 сакавіка. Маем амаль год спазнення ў працах над праектам, але гэта не па віне Саколкі ці Гародні. Тут вырашае польскі ўрад, які таксама патрабаваў завяршыць усе неабходныя фармальнасці. Зараз мы ўжо заяўляем аб аўкцыёнах. Працы пачнуцца пад канец жніўня і маем два гады на рэалізацыю праекта.

**— Паколькі так паспяхова складаецца сакольска-гарадзенская супраца, можа таксама варта больш прыглядзецца беларусам Сакольшчыны, пытанню беларускай мовы ў сакольскіх школах?**

— У Саколцы няма такіх патрэб. У нас беларуская меншасць хутка асімілюецца. Калі гаварыць пра беларускую меншасць, яна ў вялікай ступені праваслаўнага веравызнання. Дзеці з вясковых школ, нават калі іх жменька — дзвечатыры асобы, маюць магчымасць удзельнічаць у занятках праваслаўнай рэлігіі. Калі ідзе пра навучанне беларускай мове ў школах, будзем аб гэтым думаць, калі будуць такія галасы з боку бацькоў. Да гэтага часу да мяне не дайшлі інфармацыі аб такой патрэбе. У нас няма так шмат беларусаў, як у Гайнаўцы ці Бельску-Падляшскім. Там беларуская меншасць гэта большасць. Аднак мы тут таксама арганізуемся і паказваем беларускую культуру ў час розных мерапрыемстваў ці фестываляў. Зараз, спадзяюся, адкрыемся яшчэ больш і яшчэ лепш пазнаёмімся з беларускай культурай, дзякуючы «Шляху Тызенгаўза» і культурнаму абмену, спектаклям ці рознага тыпу мерапрыемствам. Камяніца будзе домам культуры, прысвечаным славутаму Тызенгаўзу. Гэты будынак мае служыць грамадству. Менавіта ад жыхароў будзе залежаць як выкарыстаем гэтае месца. Ужо маем вельмі шмат прапаноў, перш за ўсё ад сеньёраў з Саколкі. Яны вельмі моцна ангажуюцца ва ўсё, што адбываецца ў нашым горадзе.

**— Праект „Шлях Тызенгаўза" мае прасоўваць культурна-гістарычную спадчыну польска-беларускага памежжа. Магчыма камяніца Тызенгаўза ў Саколцы стане такім месцам, у якім таксама будзе можна нечага даведацца пра культуру і дзейнасць беларусаў Сакольшчыны, пачытаць «Ніву»?**

— Будзем над гэтым працаваць. Паводле мяне праект павінен пакінуць трывалы і станоўчы след як у нас, так і ў суседняй Гародні. Магу паганарыцца, што там у тым будынку, які будзе рамантаваны па праекце «Шлях Тызенгаўза», з'явіцца кавярня. Першапачаткова старшыня Гарадзенскага гарвыканкама паведаміў, што ў будынку будзе кавярня «Саколка». Але прыйшоў да іншай думкі, што ніхто яшчэ столькі не зрабіў для Гародні, як пані бургамістр. І таму кавярня будзе называцца «Ева». Усіх сардэчна запрашаю ў маю кавярню ў Гародні.

**— Віншую і дзякую за размову!**

Тэкст і фота Уршуля ШУБЗДА

# Пад Альпамі

**Чатыры месяцы таму згадваў я ў гэтым месцы пра адну з найбагацейшых у свеце вуліц — Вакзальную ў швейцарскім Цюрыху. З чаго ўзялося багацце гэтай, здавалася б, невялікай альпійскай дзяржавы? Меркаванні на гэтую тэму могуць быць розныя, аднак, бадай, дамінуе перакананне, што такі рост дабрабыту швейцарцаў быў, парадаксальна, вынікам Другой сусветнай вайны.**

Швейцарскі сацыёлаг Жан Цыглер так пісаў пра сваю краіну: „У кожную эпоху швейцарцы ішлі супраць цячэнню, рабячы ўсё наадварот чым іхнія суседзі. У канцы XI стагоддзя ў Еўропе ўзнікалі буйныя феадальныя манархіі, якія перажывалі пік свайго росквіту ў XIV і XV стагоддзях. Швейцарцы, інакш чым іншыя народы, прагналі феадальных паноў — і сваіх суродзічаў, і іншаземцаў — спярша ў рэгіёне масіва Гатарда стварылі хаўрусныя незалежныя суб'екты, а дакладней — мужыцкія дзяржавы. Пасля наступіла аб'яднанне са ўзбунтаванымі гмінамі вольных гарадоў Свяшчэннай Рымскай Імперыі германскай нацыі і Швейцарскага плато. Калі гаварыць пра іхнюю ўнутраную арганізацыю, то ў мужыцкіх дзяржавах панавала непасрэдная дэмакратыя характэрная вясковай супольнасці, затое гарады былі здамінаваныя цэхамі. Цягам шасці стагоддзяў адзіным супольным фундаментам канфедэрацыі была ўзаемадапамога ў адносінах да вонкавых сіл, ваеннае супрацоўніцтва дзеля абароны перад атакамі буйных феадальных манархій ды супольная абарона свабоды. Гэты анахранізм датрываў да XIX стагоддзя. І калі па ўсёй Еўропе мацнелі суверэнныя і сцэнтралізаваныя нацыянальныя дзяржавы, швейцарцы зноў зрабілі наадварот: стварылі федэральную дзяржаву, якая па сутнасці была федэрацыяй, а толькі крыху дзяржавай. Народ лічыцца звязам адносна незалежных грамадскасцей з уласнымі мовамі, культурамі, рэлігіямі і гісторыямі. Гэта канфедэрацыя, якой адзінства мае вонкавыя крыніцы, а мэтай з'яўляецца супольная абарона. Тамашнія грамадскасці не жывуць разам, толькі побач сябе. І Швейцарыя па сутнасці не з'яўляецца дзяржавай, толькі абароннай супольнасцю. Яна патрабуе чужых, толькі іншаземцы ахоўваюць Швейцарыю перад распадам".



Вакзальная вуліца ў Цюрыху



Лавачка перад касцёлам св. Пятра ў Цюрыху

Гэтая неардынарная палітыка дала свой станоўчы плён: швейцарцы ў наш час лічацца адным з найбагацейшых народаў свету. Існуе тэзіс, што такога дабрабыту дабіліся яны таму, што трымаліся нейтральнасці, што не ўдзельнічалі ў апошніх сусветных войнах, што їхняя краіна не была ў іх выніку знішчана. Для некаторых вайна гэта вялікія разрушэнні матэрыяльных і духовых каштоўнасцей, для іншых магчымасць нажывы. Швейцарцам ставіцца закід, што яны нажыліся на Другой сусветнай вайне. Гэты закід стаўляе сваім суграмадзянам і Жан Цыглер. Паводле яго ў час апошняй вайны швейцарскія банкі нажыліся на зрабаваным гітлераўцамі па ўсёй Еўропе дабром, асабліва яўрэйскім, якога даваенныя ўладальнікі загінулі ў ходзе халакоста, не пакідаючы спадкаемцаў.

Яшчэ раз Жан Цыглер: «W 1949 r. Szwajcaria podpisała tajną konwencję z komunistyczną Polską, na mocy której Szwajcaria przekazała Polsce majątki złożone na szwajcarskich kontach przez polskich Żydów zabitych przez nazistów, zaś Polska przelała te pieniądze z powrotem do Szwajcarii w ramach odszkodowania za wywłaszczenie przez nowy, komunistyczny reżim szwajcarskich banków i przedsiębiorstw w Warszawie, Krakowie i innych miastach Polski».

Не буду я тут умешвацца ў ацэнкі знаўцаў праблемы, але пры нагодзе ўстала перада мною пытанне: а ці нейкімі рыкашэтамі не пайшло ў Швейцарыю і наша дабро, захопленае з нашай тэрыторыі царскімі ўладамі і іх падначаленымі? Бо ж у ходзе бежанства наша тадышняе духавенства па загадзе царскіх іерархаў вывозіла з сабою ўсе каштоўнасці, хай сабе і сціплыя, накопленыя нашым насельніцтвам. Пасля ўсё гэта трапіла ў рукі бальшавікоў. Працытую фрагмент далейшай гісторыі аўтарства Ігара Буніча: „Ленин 23 февраля 1922 года подписал декрет „Об изъятии церковных ценностей в пользу голодающих". Церкви были разграблены, как и приказал Ленин, „с беспощадной решительностью" и „в кратчайший срок". Расстреляно 40 тысяч священников, дьяконов и монахов, а также около 100 тысяч верующих, входивших в церковные двадцатки и общины. Чистая прибыль составила два с половиной миллиарда золотых рублей (по очень скромной оценке робких историков эпохи перестройки и гласности). По мнению западных специалистов, эту цифру следовало бы увеличить раза в три. Все-таки храмов и монастырей было очень много, а существовали они, в среднем, лет по 300. Помнится, что АРА (англ. American Relief Administration, ARA — Амерыканская адміністрацыя дапамогі — А. В.), истратив 137 миллионов долларов, накормила и спасла от смерти более 20 миллионов обреченных. Советская статистика указывает, что в 1922-1923 годах хлеба за границей было закуплено на 1 (один) миллион рублей, то на семена. Что касается закупок скота и сельскохозяйственных орудий, то их не было вообще. Куда же пошли эти несметные сокровища? Ведь, если бы разделили поровну, как было обещано, только их, то даже разоренная Россия смогла бы быстро превратиться в нечто богатое и цветущее, вроде Кувейта. Но ничего подобного, естественно, не произошло, ибо цель была прямо противоположная. „Лихорадка, на мировых биржах, вызванная резким падением цен на золото, связывается специалистами с поступлением на мировой рынок больших партий этого металла из России. Партию большевиков, правящую ныне в этой несчастной стране, вполне можно назвать „партией желтого дьявола„", — писала английская газета „Гардиан" в марте 1923 года. Ей вторила газета „Тайм": „Покупка левыми социалистами двух шестиэтажных домов в деловой части Лондона по аукционной цене в 6 миллионов фунтов стерлингов за дом и установка за четыре миллиона фунтов стерлингов помпезного памятника Карлу Марксу на месте его погребения свидетельствуют о том, что большевикам в Москве есть куда тратить деньги, конфискованные у церкви якобы для помощи голодающим". Да апошняй звесткі патрэбная агаворка: бюст Карла Маркса на яго лонданскай магіле быў устаноўлены ў 1956 годзе.

Не пра Лондан я згадваў, але пра Швейцарыю, што і туды маглі патрапіць каштоўнасці з расійскіх сховішчаў. Хаця з 1923 года саветы парвалі гандлёвы абмен са Швейцарыяй у адказ за забойства ў гэтай краіне савецкага дыпламата Вацлава Вароўскага. Застрэліў яго ўцякач з савецкай Расіі Марыс Канрадзі, унук швейцарскага заснавальніка кандытарска-шакаладнага завода ў Пецярбургу. Менавіта той завод бальшавікі нацыяналізавалі ў 1917 годзе, а сямейнікі ўласніка былі арыштаваны і забіты; выратаваўся толькі згаданы Марыс. Ён на судзе заявіў: „Я сделал доброе дело — русские большевики погубили всю Европу. Это пойдет на пользу всему миру. Я верю, что с уничтожением каждого большевика человечество идёт вперед по пути прогресса". У адказ савецкі ўрад парваў эканамічныя адносіны са Швейцарыяй; узноўлены яны былі ў 1946 годзе. Але да таго часу каштоўнасці, што былі ў распараджэнні Масквы, вывозіліся ў іншыя краіны, у тым ліку і ў Германію, адкуль у гады Другой сусветнай вайны маглі трапіць у прыальпійскія сховішчы. Таму магчыма, што ў цяперашнім багацці швейцарцаў ёсць і сціпленькі ўдзел нашых продкаў...

Пара вярнуцца на цюрыхскую Вакзальную вуліцу, той сімвал швейцарскага дабрабыту. У нядзельную познюю раніцу яна была амаль бязлюдная; у нядзелі ў Швейцарыі не гандлюецца. Але памаленьку пачаў туды пранікаць малалікі народ, у асноўным кітайскага выгляду і з фотаапаратамі. А мяне зацікавіў тамашні вакзал...

У пачатку снежня вакзальны хол чыгуначнай станцыі ў Цюрыху пульсаваў інтэнсіўным жыццём. Хол быў запоўнены ларкамі, які стваралі данавагодні базар. У палове сакавіка той жа хол быў рэлятыўна пусты і малалюдны. Дазволіла гэта глянуць крыху шырэй на цюрыхскі чыгуначны вакзал.

Цягнікі адпраўляюцца адтуль з двух узроўняў. Першы, традыцыйны — тут рэйкі ляжаць на ўзроўні грунту і яны не пралётныя толькі тупіковыя. Затое другі ўзровень пад зямлёю, быццам метро. Толькі што метро наогул з'яўляецца замкнутай сеткай гарадскога транспарту; у Цюрыху падзямельныя пуці спалучаны з агульнай сеткай чыгункі. Пуці з верхняга ўзроўню пралягаюць па мосце ракі Зіль, якая зараз за вакзалам уліваецца ў галоўную цюрыхскую раку Лімат. Пуці з ніжняга ўзроўню пакладзены ў тунэлі пад Зілем, а адзін з іх пралётны і па тунэлі пад Ліматам таксама выходзіць на стрэлкі агульнай чыгункі. Такі двухэтажны вакзал не з'яўляецца ў Швейцарыі ніякім дзівам — там трэба даражыць месцам, таму тое месца здабываецца пад зямлёю...

Вакзальны хол, так мне здаецца, цягам негандлёвых перыядаў стаіць амаль пусты, але гандлёвыя ларкі пад ім пульсіруюць жыццём. Аднак, зноў так мне здаецца, тамашні народ не думае нейкім чынам прынізіць яго ролю, як гэта бывае з нашымі вакзальнымі будынкамі. Гэта гістарычны манумент, пастаўлены ў 1871 годзе. Час ад часу ладзяцца там агульныя кірмашы, а часам ладзяцца там зусім іншыя мерапрыемствы. Напрыклад, у верасні 2008 года была там пастаўлена опера Джузепе Вердзі „Травіята". Быў гэта адкрыты спектакль, які маглі глядзець і слухаць пасажыры. Маглі слухаць, бо цюрыхскі вакзал слаба насычаны дэцыбеламі, зусім інакш як, напрыклад, прыхаваныя пад зямлю варшаўскія чыгуначныя вакзалы ў цэнтры нашай сталіцы.

Можа здавацца, што на вакзале складана чакаць паклоннікаў вытанчанай музыкі. Аднак павінна іх крыху назбірацца з таго велізарнага ліку пасажыраў, якія карыстаюцца галоўным вакзалам Цюрыха. Мяркуецца, што ў суткі праходзіць па ім ад трохсот да пяцісот тысяч пасажыраў; гэта столькі, колькі насельніцтва пражывае ў горадзе. Кожныя суткі з вакзала адпраўляецца звыш 2600 цягнікоў рознай дальнасці, у тым ліку ў Прагу і Будапешт.

На вакзальных стэндах падаецца шмат цікавай пасажырам інфармацыі, напрыклад, прагнозы надвор'я. Ёсць і іншыя атракцыёны, дзе можна лёгка ўсміхнуцца...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі



# Будуць з іх людзі!

— Я толькі што вярнулася з Замкавай гары, — кажу замест прывітання ў чацвёртым «д» класе, — і ведаеце, мне вельмі сумна.

— Бо там многа смецця, — адразу здагадаліся дзеці.

Вясну вітаем вялікімі парадкамі, прыбіраем смецце, насаджваем каляровымі краскамі агародчыкі. Ды самі апранаемся ў лёгкае, вясёлае адзенне, хочам дастроіцца да самай прыгожай пары года. Са злосцю думаем пра тых, што засмечваюць парк, лес, абочыны дарог, ці Замкавую гару, сведку гісторыі старажытнага Бельска.

— А маляваць графіці гэта шкодна? — спытаў адзін чацвёртакласнік. І сам прызнаўся, што любіць крэмзаць па гарадскіх платах і мурах. У класе адразу ўспыхнула спрэчка. Мала хто адабраў захапленне сябры-графіцёра. Добра, калі за маляванне бяруцца прызнаныя мастакі. Дзеці назвалі беластоцкі мурал «Дзяўчынка з конаўкай». Яна зусім як вучаніца бельскай «тройкі» ў беларускай вышыванцы.

— І выглядае так, быццам сапраўды падлівала прысохлае дрэва, што расце на вуліцы, — прыкмецілі ў класе. Усе любяць прыгожыя творы гарадскога стрыт-арту. Таму класнаму сябру, пакуль ён стане вядомым, мы параілі, каб спачатку памаляваў плот на сваім панадворку.

Гісторыя роднага горада жыва цікавіць вучняў. Вось Пятрусь Сноп вельмі хацеў бы прачытаць усё пра бельскую ратушу. Гэтая будоўля з гадзіннікам як магніт прыцягвае сваёй аўрай людзей. Яшчэ адносна нядаўна ў кожны чацвер вакол ратушы кіпеў натоўп гандляроў, прадаўцоў, пакупнікоў...

— А мяне цікавяць беларускія легенды, — кажа Міхась Бужынскі, — там знаходжу нешта такое, што застаўляе мяне іначай глядзець на месцы, на іх даўгавечнасць.

Уразіла таксама выказванне Ніколь Яцэвіч-Вайт. Дзяўчынка, у якой беларуска-нідэрландскае паходжанне, больш за цюльпаны ўпадабала беларускі герб «Пагоня».




— Ці будзе ў «Зорцы» яшчэ пра Пагоню? — дапытвалася. — Яна такая загадкавая.

Калі пра загадкі....

Яшчэ на пачатку сустрэчы мы паспрабавалі адгадаць зорчыну загадку з «разумным гаршком, што сем дзірак мае». Пасля доўгіх здагадак і фантазій (некаторыя хацелі пабачыць у тым «гаршку» божую кароўку) урэшце пацэліў у сук Алян Алексяюк. Яго поспех выклікаўмногапытанняў пра «Зорку». І, здаецца, мы добра пагаварылі! Бо ўжо пад канец нашай сустрэчы амаль усе хлопцы хацелі быць журналістамі...

На ўрок беларускай мовы запрасіла нас настаўніца Валянціна Бабулевіч.

— Я люблю працаваць з гэтым класам, — сказала яна, — бо ў ім вельмі жывыя вучні. Яны заўсёды маюць свае погляды, але гэта вельмі добра. Добра, што не баяцца выказваць сваіх поглядаў, нават тады, калі яны не згодны з поглядамі настаўніка. Тады ёсць нагода правесці дыскусію.

— І я гляджу на іх і думаю, — пахваліла сваіх вучняў настаўніца. — Будуць з іх людзі!

У чацвёртым «д» класе яшчэ жывуць дэкламатарскім конкурсам «Роднае слова». Сёлета, з мастацтвам беларускага слова пасябравалі Юля Кур'яновіч, Алівер Лукашэвіч, Оля Казлоўская, Оля Грыгарук, Ксенія Зінкевіч, Наталля Кулік, Пятрусь Споп і Шыман Пранявіцкі. Частка вершаў апавядала пра родную прыроду, таму ўсе былі згодны, што трэба шанаваць прыроду. Не менш шкодныя тролінг і хейт у інтэрнэце, якія засмечваюць нам жыццё і пачуцці. Апошнюю праблему падымае красамоўная насценная газета на калідоры школы. На малюнках слёзы дзяцей, пакрыўджаных дурным хейтам і тролінгам...

**Зорка,**
**фота Ганы Кандрацюк**

---

## УВАГА КОНКУРС! № 15-19

**Два браты ў ваду глядзяць, а разам не сыходзяцца.**

**(Б.....)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 28 красавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 11: колы.**

**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Марцін Галёнка з Нарвы, Аляксандра Макаль, Дамінік Каліцкая, Юлія Вінеўская, Вікторыя Матышэк, Лукаш Хіліманюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, Алівія Каранкевіч, Зося Якімец, Клаўдзія Анджэйчык, Кася Жданук з Залук. Віншуем!**

---

Юля ГЖЭСЬ
Залукі

## Думай

Думай пра ручаі і рэкі.
Падумай пра лясы, лугі і даліны.
Падумай пра родныя мясціны.
Пра дрэвы,
у якіх раскідзістыя галіны.
Падумай пра ўзгоркі і горы
вялікія і малыя.
Падумай аб сваёй сям'і.
І не пераставай
думаць пра родны край.

# Тэатральны сорак чацвёрты

Сорак чатыры гады праводзіцца ў Беларускім таварыстве конкурс для тэатральных калектываў. Гэта вельмі многа. За гэты час шмат вучняў прыняло ў ім удзел. Можна сказаць, што ён шматпакаленны, бо калісь прымалі ў ім удзел бацькі і настаўнікі, якія рыхтуюць моладзь да выступленняў, а нават і бабулі з дзядулямі! Бо ёсць і баявітыя дашкольнікі, якія яшчэ не чытаюць, а вывучаюць словы пастаноўкі са слыху. **27 сакавіка** прыехалі яны са сваімі п’есамі на сцэну ў Беларускім таварыстве ды выступілі перад калегамі, журы ды іншымі гледачамі Вядома, выступленне перад аўдыторыяй гэта не жарты, усіх турбуе хваляванне. Але нікога яно не з’ела і маладыя акцёры шасці тэатральных груп з прадшколля, пачатковых школ і гімназіі ды адзін з дома культуры, дзе выступаюць дзеці з усёй Гайнаўкі, прадставілі свае пастаноўкі ў прыгожым сцэнічным афармленні. Напрацаваліся пры гэтым і іх апекуны — Людміла Сегень і Юліта Сушч са школы Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Таццяна Андрацкая са школы ў Бабіках, апякункі дашкольнікаў Вольга Вілюк, Ала Супрун і Міраслва Ніканчук з Гайнаўкі, Альжбета Цюлькевіч і Дарыюш Гарадэцкі з Орлі, а Вера Масайла з Гайнаўкі і Ніна Абрамюк з Нарвы таксама напісалі свае п’есы. «Гуканне вясны» (III месца) на сцэне сабрала ўсіх вучняў, якія пільна вывучаюць у праваслаўнай школе беларускую мову. Паказалі яны як важная народная традыцыя ў выхаванні чалаека. Таксама ў пастаноўцы «Вяселля і радасці хопіць на ўсіх» (вылучэнне) бабіцкія вучні багата паказалі народныя прымаўкі, прыказкі і гульні беларускіх дзетак. Да багатай традыцыі і больш сучасных момантаў у гісторыі з удзелам таксама арлянскай гаворкі сягнуў калектыў з Арлянскай школы ў спектаклі «Рэкруты — а хлопцы ідут у салдаты» (II месца). У п’есе «Каб не тыя лады» (III месца) «Званкі» з Гайнаўскага дома культуры расказалі пра абрад «ладоў» перад вяселлем — тут і акручаная інтрыга, як ляноту і балбеса хацелі ажаніць з добрай дзяўчынай, ашукоўваючы яе сям’ю. Вядома, усё добра кончылася, перамаглі каханне і праўда. А ў пастаноўцы «Я хачу працаваць» (I месца) пані Ніна ў тэксце пакарысталася таксама матывамі з твора Валянціна Зуба з сучаснай Беларусі і сучасным матывам задавальнення ахвоты працы для маці, якая выхавала ажно пяцёра дзяцей. Тут знайшлі магчымасць паказаць свой талент Міхась Тапалянскі, Марк, Уладзік і Крыся Кутузавы ды Кася Станько. Было каго ўзнагароджваць паасобку, а найбольш з удзельнікаў казкі «Рэпка» з тэатральнага калектыву «Калебка» з Прадшколля № 1 у Гайнаўцы (гранпры), дзе амаль кожны акцёр атрымаў індывідуальную ўзнагароду: Якуб Бірылка — Пеўнік, Юліта Раманюк — Расказчыца, Аня Парфянюк — Кошка, Настуся Франкоўская — Мышка і Рэпка — Філіп Фірс. З большых акцёраў, больш вопытных, не раз выступаючых на сцэне, узнагароду атрымалалі нарваўцы Кася Станько — мама, шукаючая працу, Марк Кутузаў — віцэ-дырэктар завода, з арлян — Дар’я Нестарук — маці рэкрута, з гайнавян — вучань школы № 4 Данель Ціханюк (дзве ролі — нарачонага Марысі і бацькі нядошлага маладога). З тэатральнага калектыву з пачатковай школы імя Адама Міцкевіча ў Бабіках адзначана была роля Хатніка, якую сыграў Матэвуш Валянтовіч — ён жа найбольш старанна вымаўляў беларускія словы, хаця ўвесь калектыў таксама вельмі стараўся. Гульні і радасці хапала для ўсіх!



Тэкст і фота
**Міра ЛУКША**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Асёл-сеніёр

Адной раніцы прыйшлі жывёлы павіншаваць асла:

— Вялікая радасць завітала ў ваш двор! У вас нарадзіўся першы ўнучак. Прыміце ад нас найлепшыя пажаданні і падарункі. Зычым шчасця і радасці ад малога...

А стары асёл пахіліў галаву і жаласна сказаў:

— Гора мне, вялікае гора, сябры! Няма чаму мне радавацца, весяліцца.

— Адкуль у вас столькі расчаравання, асёл-сеніёр?

— Гэта не расчараванне, гэта лёс такі. У нас, аслоў, з малых гадоў горкая доля. Ды чаго мне весяліцца? Нават сто ўнукаў не аблегчыць на маёй спіне ўюка.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Вольга Жогла

## Вербная нядзеля

У светлых шаліках, касынках
жанчыны вуліцай ідуць,
вярбы ружовыя галінкі
чамусьці ўсе яны нясуць.
Ды сёння ж Вербная нядзеля!..
і я пакрыю галаву
і ў светлым, новенькім адзенні
прыйду з жанчынамі ў царкву.
Купіўшы свечку каля брамы,
працíснуся да абразоў,
пад залатымі купаламі
перахрышчуся шмат разоў.
Як добра тут — святым і грэшным —
і не стамляешся стаяць,
шапчу малітву — можа, вершы,
пачуцці, словы не стрымаць.
Усё цудоўна на прадвесні:
вярба свянцоная цвіце,
Хрыстос, сын Божы, уваскрэсне,
праз тыдзень прыйдзе Вялік Дзень.

## Польска-беларуская крыжаванка № 15-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11-2019:**

Парык, Ева, сусед, сіта, панядзелак, рацыя, іл, канон, грыўка. Гусар, уначы, месяц, веды, падзяка, на, расліна, талон, крок, на.

**Узнагароды, аўтаручкі,** выйгралі **Вікторыя Кандрат, Якуб Васільчык** з Нараўкі, **Іза Матышэк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Оля Кардаш** з Нарвы, **Вікторыя Баркоўская, Давід Сурэль** з Арэшкава, **Павел Пахвіцэвіч, Каміль Кубаеўскі** з Орлі, **Зося Грыка** з Міхалова, **Эмілька Каранкевіч** з Залук. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Piosenka | | Zbędny | | |
| | | Sport | Świetlik | Mięta | | | Trzy / Nacja | | Ty |
| | | Śmieszny | | | | | | | Ja |
| | | Wiosna | | | | | | | |
| | Żelazko / Piątek | | | | | | | | Ryż |
| Sałatka / Jagnie | | Ta | | | | Nasz | | | |
| Gol | | | | Bierz | Niemy | | | | |
| | | Jan | | | | | | | |
| Jan | | Jastrząb | | | | | | | |

*Размова з* **Федзем Амільяновічам**, *1949 года нараджэння з Орлі.*

# Працаваў трыццаць гадоў вадзіцелем-электраманцёрам



Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

**— Ці памятаеце сваіх дзядоў, расказы пра бежанства?**

— Дзядоў не памятаю. Бацька быў у бежанстве ў Сярэдняй Азіі. Калі было яму дваццаць гадоў, прызвалі яго ў царскую армію; быў там пісарам. Калі ўспыхнула рэвалюцыя, то быў у „белых”, але думаў перайсці да „чырвоных”. У час паходу схаваўся ў бульбянішчы і калі прыйшлі „чырвоныя”, то ім паддаўся.

Пасля вяртання бацька жыў у Орлі і ажаніўся з удавой Аляксандрай Багацэвіч. Яна раней была замужам, мела дзяцей, якія паўміралі, а муж, які служыў у матросах, загінуў на моры. Яна паходзіла з багатай сям'і, а мой бацька быў бедны. У гэтым сужонстве нарадзілася двое дзяцей: Сярожа, які хлапчуком трагічна загінуў пры немцах: учапіўся за самаход, а калі адчапіўся, трапіў пад колы... І Жэня, якая пасля апекавалася мною. Аляксандра моцна перажывала смерць сына, хварэла і памерла. Бацька астаўся з дачкою, а пасля ажаніўся з малодшаю на 25 гадоў дзяўчынай Валяй з Міклашоў — маёй мамай, якая нарадзілася ў бежанстве ў 1918 годзе ў горадзе Уфа.

**— Ваш бацька многія гады працаваў пры арлянскай царкве...**

— У час Другой сусветнай вайны каля царквы стаяла хата царкоўнага стоража, у якую ўсярэдзіну ўляцеў снарад і забіў таго стоража. То жонка псаломшчыка Радзёна запрапанавала тую пасаду майму бацьку. Ён згадзіўся, старажаваў і быў званаром.

Ці было цяжка служыць у царкве? Скажу так: была складаная палітычная сітуацыя. Тады партыйныя не надта хадзілі ў царкву ці касцёл. А я ў палове 1950-х гадоў, з малога, ужо прыслугоўваў у царкве. На службы прыходзіла многа людзей.

Памятаю бацюшку Максіма Сандовіча (служыў у Орлі са жніўня 1954 года да 30 мая 1962 года — М. М.). Ён занадта не займаўся гаспадаркай, бо ягоная жонка была з горада і хацела ў горад. І выехалі яны ў Беласток. А прыехаў (8 жніўня 1962 года — М. М.) бацюшка Аляксандр Такарэўскі з Аўгустова. Ён прывёз з сабою свіней, авечак, курэй... І гадавалі там; я памятаю, бо калі падрос, то бацюшка паклікаў мяне, каб злавіць барана, які біўся. А да барана нельга падыходзіць спераду, толькі збоку. Я ўхапіў таго барана; яго трэба было абстрыгчы. Пазней бацюшка спыніў гадоўлю, а заняўся царкоўнымі рамонтамі.

Бацюшка Такарэўскі быў такі „харошы чалавек”, гаварыў „как ты хочаш”. З нікім не сварыўся, а быў гэта яшчэ партыйны час. У яго ўсё царкоўнае было святое.

**— Як гулялі ў дзяцінстве?**

— Па-суседску з намі, па вуліцы Пасвятнай, жыў каваль Алёша Багацэвіч, яго брат Коля і бацька Матвей; яны там разам працавалі. А я дзіцём бегаў туды. Быў там ужо электраток, але толькі для лямпачак. То я круціў паддувала, давала павеў. Кавалі мяне туды стаўлялі і я быў задаволены. Яны награвалі жалеза, а я глядзеў, як яны куюць. Была гэта паветка з дошак, вялікія дзверы з поўначы, акно. Заходзіў туды, вядома, басанож і не раз іскра папарыла. Нейкія боты меў, але ў кузні зараз бы падзіравілі іх іскры. І каваль Алёша любіў, што я туды забягаў. Я там шкоды не рабіў і для мяне гэта было такое вялікае задавальненне, што я там мог бы і начаваць.

**— Былі кавалі ў той час у Орлі?**

— Сваю кузню мелі браты Ігнат і Міхал Шыманскія, накоўвалі зубкамі сярпы і іншыя сельскагаспадарчыя прылады, падкоўвалі коней. Філіп Адзіевіч рабіў сельскія прылады, сошкі для абворвання бульбы, зубы для барон. І Саша Карнееў меў у сябе кузню. Быў яшчэ каваль Фэдаровіч па Кляшчэлеўскай вуліцы (у яго працаваў Саша Карнееў); меў ён таксама сваю такарню і больш займаўся слесарствам.

**— Школьныя гульні?**

— Арганізавалі такія вячоркі. Памятаю, што першы раз танцаваў калі быў у чацвёртым класе. Быў канцэрт, нейкая музыка...

**— Як тады гуляла моладзь?**

— Гулялі ў лапту, то не раз па галаве дастаў калком. А мячом гулялі пазней. На пляцоўку за арлянскімі могілкамі хадзілі ў нядзелі, калі былі матчы. Тады было многа моладзі, а зараз едзеш на рынак, то пуста. Так як па вёсках, так і ў Орлі. Крыху часу забраў людзям тэлевізар. Калісь хадзілі ў парк або ў кіно.

**— Якой была школа?**

— Падстаўоўка — сем класаў. Да чацвёртага класа былі па два класы: беларускі і польскі. У тым польскім класе ўсё было па-польску, у ім вучыліся дзеці нашых праваслаўных, толькі багацейшых. Я ўвесь час вучыўся па-беларуску, а па-польску не было ні слова. Вучыў настаўнік Васіль Лашкевіч і яго жонка Барбара. Настаўнік быў пажылым чалавекам, то некаторыя вычаўпалі на ўроках. Мне навука па-беларуску ішла вельмі цяжка; часам атрымліваў двойку за тое, што размаўляў па-свойму.

У пятым класе былі прадметы беларуская мова, руская і рэлігія. І тады, калі пачынаў вучыцца па-польску, то было цяжка.

А чаму зрабілі два паралельныя класы: беларускі і польскі? Бо тады яшчэ не было вядома як з намі будзе і рыхтавалі „высюдаць”. Бо, думаю, навошта ж быў той беларускі клас у Польшчы? Нямецкая мова была ненавісная, немцаў выгналі.

**— Ваша далейшая адукацыя?**

— Сем класаў пайшоў у двухгадовую Школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Класы былі поўныя, па трыццаць вучняў. Вучыў Генак Ляўчук з Орлі. Я ўмеў ужо прыворваць, бо дома мелі каня. Вучыўся толькі адзін год, а ў другім сусед паведаміў, што ў Бельску адкрываюць у „беларусах” вечаровае прафвучылішча: аўтамеханік, радыёмеханік, электрык... А мяне сельская гаспадарка не цікавіла. І я кінуў.

У школу даязджаў чыгункай з Арлянкі, тры кіламетры ад Орлі. Заняткі былі з чатырнаццатай да дваццатай гадзіны. З Орлі вучыўся са мною Караль Фурса, пасля ён закончыў тэхнікум у Беластоку. Першая практыка была ў „рашарні”, другая ў „М-5”, а трэцяя ў аўтамайстэрні TOS каля шпіталя, дзе ладзілі самаходы. І гэтую школу па спецыяльнасці аўтамабільна-трактарны механік я закончыў з вылучэннем.

**— Першая праца, войска?**

— Стаў на працу ў TOS, а пасля трох месяцаў забралі мяне ў 1968 годзе ў войска. Хацеў я перад войскам здаць вадзіцельскі экзамен, але сказалі, што магу ў войску. Накіравалі ў войска ў Аструду, у самаходоўку і там на працягу трох месяцаў атрымаў вадзіцельскія правы. Былі там „белыя” і „чырвоныя” казармы, некалькі тысяч салдат, а цывіляў мала было і відаць.

У конкурсе ведаў пра самаходы заняў трэцяе месца і атрымаў тры дні водпуску. Не спяшаўся, пачакаў да свайго свята і паехаў на пяць дзён.

Зw Орлі ў войску быў са мною Толік Сушч, былі хлопцы і з іншых вёсак.

**— Ці размаўлялі па-свойму?**

— Размаўлялі, калі сустракаліся ў сваёй кампаніі, але паціху. Пасля я часта ездзіў у камандзіроўкі, чыгункай, забіраць самаходы з рамонтных майстэрняў, у Глоўна, пад нямецкую граніцу. І калі каля Познані пыталі адкуль я, я гаварыў, што з Курніка, каля Познані. І яны тады адносіліся да мяне нармальна. Ніколі не гаварыў, што з Беластоцкага. Гэтаксама і ў часці. Чаму? Бо некаторыя ставіліся непрыхільна, асабліва тыя з нашых аколіц, як Браньск...

**— Далейшая служба?**

— Паслалі ў Варшаву, на Цытадэлю, у самаходную часць. Далі большы самаход „Стар”. Былі там у прынцыпе самыя старшыя афіцэры, трэба было хадзіць на зважай. Ездзілі на палігоны вакол Варшавы. А там, так каля дваццаці кіламетраў ад сталіцы, былі хаты пад саламянай страхой; бедныя вёскі.

Пасля года службы перакінулі ў Моранг, у артылерыйскі полк; раней там служыў Шурык Фіёнік з Орлі. Ездзіў „Старам” у Аструду, Ольштын, па запасы. Прайшло паўгода і пытаюць, чаму я не хачу ехаць у водпуск. А я адказваў, што мне там лепш чым дома. Бо яда была з мясарні, булкі з пякарні, а салдаты ўмелі гэта па-свойму арганізаваць.

Пасля нейкага часу перавялі на ўзводнага механіка — далі пад маю апеку пятнаццаць самаходаў, каб дбаў пра іх спраўнасць. Былі там савецкія „ЗіСы”і польскія машыны. Авансавалі на старшага радавога, хаця я не хацеў.

Перад адыходам з войска зладзілі мы невялікую выпіўку ў шавецкай майстэрні і тады я ўпершыню ў жыцці закусваў мароджаным; гэта была мне навінка.

**— Ці была прапанова астацца кадравым вайскоўцам?**

— Прапанавалі. Некаторыя аставаліся і зразу іх авансоўвалі. А мяне лякала перспектыва дваццаці пяці гадоў службы ў войску. Першы год службы мінуў хутка, а другі цягнуўся. І ў 1970 годзе выйшаў з войска, але зразу дадому не паехаў, а паехаў з калегам у Гданьск, пабачыць упершыню мора.

**— Ці бралі Вас у запас?**

— Адзін раз, у Варшаву, на Цытадэлю, на два тыдні. У час ваеннага становішча быў я, як электраманцёр, у распараджэнні міліцыі. 13 снежня паклікалі мяне на пастарунак міліцыі ў Орлі, а там — поўна армоўцаў, паляўнічых з вінтоўкамі. Выслалі мяне самаходам у Вульку-Выганоўскую і адтуль двух „салідарніцкіх” забралі на пастарунак.

**— А як Вы сталі электраманцёрам?**

— Спярша была прапанова стаць шафёрам. У Орлі быў пастарунак электраманцёраў. Далі „Нысу” з радыёстанцыяй. У той час стаўпы былі драўляныя і бетонныя. Год часу быў шафёрам і памочнікам манцёра. Здабываў вопыт, быў на курсах. Было шмат выпадкаў манцёраў, па руціне.

Здаў экзамен на манцёра. Калі мясцовы манцёр Владэк Здановіч адышоў на пенсію, то я стаў брыгадзірам. У будынку на маім панадворку быў пастарунак. Працаваў манцёрам з 1971 да 2000 года, амаль трыццаць гадоў. Цяжка было быць брыгадзірам на сваёй тэрыторыі, бо кожны меў прэтэнзіі, ругаліся...

**— Як праходзіла электрыфікацыя Орлі?**

— У 1949 годзе давялі электраток да дамоў і ў кафлярню. Тыя, што электрыфікавалі, даводзілі ток у дом — у сенях лічыльнік, адна жароўка ў кухні і адна разетка; і гэта ўсё. У той час не было яшчэ ніякіх электрычных прылад. Жароўкі былі 15, 25 і 60 ватаў. Устаўлялі 15-ватавую і ў параўнанні з газавай лямпай выглядала гэта элегантна. Аплата была ўлічана ў падатак, таму некаторыя не ўводзілі ў сябе электрычнасці, каб не плаціць. Але хто зрабіў, той быў задаволены. Аднак ток быў слабы, напрыклад, ад трансфарматара ў пачатку Орлі на канцы мясцовасці ток быў ужо слабы. На двух ці трох арлянскіх вуліцах былі лямпачкі на кожным другім слупе, якія ўключаў солтыс.

Калі людзі пачалі купляць прыборы і машыны, тады быў уведзены г.зв. ветракові падатак. Стаялі яшчэ ветраковыя млыны. То пасля вайны была такая палітыка, каб зліквідаваць ветракі, таму ўвялі той падатак; і быў ён немалы. Людзі сталі раскідаць у ветраках крылы або і зусім іх зносіць. У 1950-х гадах была ўведзена „сіла” (трохфазавы ток) і сталі купляць рухавікі.

**— А куды найпазней давялі людзям электраток?**

— Найпазней праводзілі ток на калёніях Курашава за Лядамі, Асоўка — 1970-я гады. Калёнія Круглэ ў Пушчы — адна хата. У 1977 годзе была праведзена лінія на калёнію Тапчыкалы.

**— Запытаю яшчэ пра г.зв. „точкі” — радыёпрыёмнікі...**

— Правады да „точак” былі на асобных слупах, напрыклад, з Бельска ў Орлю. „Точкі” былі яшчэ да 1980-х гадоў. Праграма па тым радыё перадавалася бадай з пятай да дваццаць першай гадзіны. Гэта была першая навінка тэхнічнага прагрэсу. Людзей гэта цікавіла — нешта робіш і слухаеш радыё. Былі прамовы, „Матысякі”, а пасля людзі расказвалі, як яны там жывуць...

**— Ваша прыватнае жыццё?**

— Ажаніўся ў 1977 годзе, жонка Ліда з Галадоў. Будову свайго дома пачаў яшчэ кавалерам, у 1976 годзе. Тады была мода на „блёчкі” (двухпавярховыя); быў да яго адзін праект.

**— Вы працавалі на два штаты, бо ж яшчэ і гаспадарка...**

— Кожны, хто працаваў на казённай пасадзе, меў яшчэ зямлю і гаспадарыў. Прыбытак — не прыбытак. У 1971 годзе, пры Герку, увялі першыя пенсіі для земляробаў, хаця не плацілі складчын. І бацька ва ўзросце 70 гадоў пайшоў на пенсію. Быў таксама царкоўным старажам, дзе царква на яго плаціла нейкія складчыны. І мусіў апісаць зямлю; апісаў на мяне, з чаго я не вельмі радаваўся, бо яна ўсюды перашкаджала: не было сямейнага дадатку, картак. Цяпер я зямлю апісаў на дзяцей.

**— Жыццё, паводле Вас, гэта...**

— Жыццё гэта пастаянныя турботы, гонка, і не хапае часу на роздум: што я сёння буду рабіць. Я заўсёды меў чым заняцца і не сузіраў як прамінае жыццё, а яно прайшло.

Згадваецца мне, як электрыкі рыхтаваліся да мадэрнізацыі лініі ў Орлі, дзе здаралася затуханне току. Бо сёння лінія новая, у самой Орлі ёсць сем трансфарматарных станцый, а была адна. І бывала, што зайду на схіле дня ў кафлярню, бо мералі напружанне току, а там рабочыя па начах працавалі. І пытаю, чаму па начах. Адказвалі, што большая пенсія будзе. Дайшло да пенсіі і зараз яны ўсе паўміралі.

Працуючы электраманцёрам зведаў я ўсе вёскі аж да граніцы. Наша тэрыторыя ахоплівала 80 вёсак у сямі гмінах. Электраманцёры мелі льготы ў аплатах: 50 кілаватаў па 10 грошаў, а нармальна было па 50 грошаў. Калісь энергетыка была злучана з горнай прамысловасцю, пасля разлучылі, а зараз зноў разам.

**— Дзякую за размову.**

Размаўляў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# НАШ РОДНЫ БОК




## З Янушам Усціновічам — лідарам беларуска-польскага гурта «Казанова» («Casanova») размаўляе Юрка Буйнюк.

**Юрка Буйнюк: — Скажыце, ці варта было вяртацца на сцэну музыкі «disco polo»?**

**Януш Усціновіч:** — Мы на гэтай сцэне безупынна ад 26 гадоў. Мы даўно нічога не выдавалі, ніякага альбома, таму што многа было работы. Мы хацелі напомніць людзям, што мы яшчэ іграем.

**— А калі распусцілася «Казанова»?**

— «Казанова» не спыніла дзейнасці, ігрáе цэлы час. Мы проста многа ездзілі па Польшчы і не было часу заняцца запісамі новых песень і альбомаў у студыі. У мінулым годзе ад нас адышоў Алег Пухаў і мы пачалі іграць удвух з Віталікам Штыкам. Алег заўсёды сядзеў і рабіў аранжыроўкі, а потым мы прыязджалі, паспявалі і запісвалі. У 2000 годзе музыка «disco polo» пачала падаць, людзі перасталі яе слухаць, а дакладней кажучы — студэнты, таму што цэлы музычны трэнд пачынаюць студэнты. Яны сказалі, што «disco polo» гэта дрэнная музыка, і прыціхла яна ў тэлебачанні і на радыё. Па нейкім часе яна вярнулася.

**— Параўноўваючы 1990-я гады і цяперашні час, якая розніца паміж сучасным рынкам «disco polo» тады і зараз? Ці вы задаволены з прамоцыі гурту «Казанова» ў Polo TV ці на радыё Vox FM?**

— Калісьці намнога больш папулярнай была гэтая музыка і намнога лепш прадавалася. Тады мы не паспявалі з усім і бракавала часу на жыццё. А цяпер гуртоў многа нарабілася, можа з тысячу, а можа і больш. Я слухаю і гэтыя ўсе гурты гучаць аднолькава. Іх не адрозніш адзін ад другога. У дзевяностыя гады было можа 50 ці 70 гуртоў на ўсю Польшчу і кожны меў сваё гучанне і стыль. Кожны з іх іграў так, што калі пачуеш песню, ведаеш хто гэта спявае і ірае. А цяпер глядзіш у тэлевізар і не маеш паняцця, хто гэта спявае.

**— У інтэрв'ю для газеты «Super Express» Вы сказалі, што старыя гурты сябруюць па сённяшні дзень, а маладыя глядзяць на вас ваўком, але Вы ўсміхаецеся і робіце сваё, таму што Вы маеце для каго выступаць. Ці гурт «Казанова» сябруе з іншымі гуртамі?**

— Я сябрую са старымі, што засталіся — «Акцэнт», «Бойс», «Імпэрыюм», «Міляна». Ёсць пару старых знаёмых, спяваем і сустракаемся на канцэртах або звонім да сябе. Трымаем кантакт.

**— У дзевяностыя гады гурт «Казанова» стварыў сабе імідж такога так сказаць аманта, мушкецёра ў стылі XVIII стагоддзя. Адкуль такі імідж і назва гурта?**

— Назва, вядома, ад гістарычнага бабніка Казановы. Я, тады яшчэ малады чалавек, сядзеў і глядзеў фільм пра Казанову і кажу: «Свой чалавек». І так я назваў свой гурт. Мы хацелі выглядаць па-іншаму, апраналі кашулі з жабо і гэта спадабалася людзям. Гурт «Казанова» праходзіў шмат метамарфоз, мяняліся строі. Мы ігралі «disco polo», але раней былі рок-музыкантамі.

**— У якіх рок-гуртах Вы ігралі?**

— Са мною іграла двух рок-музыкантаў з Беларусі Віталь Штык і Алег Пухаў. Пухаў быў вакалістам у досыць вядомым беларускім рок гурце «Side Of» і іх паказвалі на беларускім тэлебачанні. Яны ігралі на рок-фестывалях. Яны прыехалі ў Польшчу іграць сваю рок-музыку для палякаў і так мы пазнаёміліся. Яшчэ я іграў у групе «Johny Woocker» — гэта канец 1980-х і пачатак 1990-х гадоў. Гэтая група паўстала ў 1987 годзе, а ў 1988 годзе я з імі іграў на рок-фестывалі ў Яроціне. Ужо тады быў гурт «Adidas» у польскай міліцыі на вуліцы 27 Ліпеня ў Беластоку. Там мы пазнаёміліся. Гэты гурт мы перайменавалі на «AIDS» (*смех*). За гэтую назву нам так далі па вушах, што мы ўсю ноч мусілі для каменданта міліцыі іграць на акустычных гітарах. Нехта разумнейшы з начальнікаў заўважыў, што гэта не «Adidas», толькі «AIDS» (*смех*). Тады пачыналася інфармацыйная кампанія аб хваробе AIDS. Мы тады нават не ведалі, што гэта за хвароба. Пасля мы назву памянялі на «Odwód». Тады мы выступалі на музычных фестывалях пажарнікаў, на аглядах вясельнай музыкі і вельмі добрыя месцы займалі. Пасля службы ў польскай арміі стварылі мы гурт «Transformation».

**— Дзе вы пазнаёміліся з беларускімі музыкантамі?**

— З Віталікам я пазнаёміўся ў Гродне. Тады якраз мне не хапала гітарыста ў гурце «Казанова». Па гэтай прычыне, што я люблю рок, дык не можа не быць рок-гітары ў нашым гурце. Прыехалі мы з сябрам, пахадзілі па Гродне, сустрэлі Ігара Барадатага, які кажа, што ў яго гурце ёсць добры гітарыст, што ў Польшчы іграў, з рускім цыркам ездзіў па школах. Я зайшоў да яго і пытаю, што ён умее іграць. Кажа, што ўсё ўмее іграць. Я кажу яму: «Як умееш дык іграем разам». Віталік прыехаў да нас на Падляшша, зрабілі крыху рэпетыцый і так ён у нас ірае па сённяшні дзень. Ужо 26 гадоў разам іграем.

**— Вы выдалі дзве беларускія касеты «Białoruskie hity vol. 1» і «Дудка беларуская». Хто рабіў да іх аранжыроўкі?**

— Алег Пухаў рабіў. Ён клавішнік, мае сваю студыю. Сядзіць у Гродне, працуе ў музычным тэатры і рукаводзіць цыганскай групай «Рома». Там ён таксама іх запісвае, робіць ім аранжыроўкі, ездзіць з імі на канцэрты, на фестывалі. Тут былі ў Дон Васыля на двух цыганскіх фестывалях. Ён жыве з музыкі і мы ў ягонай студыі ў Гродне запісваем альбомы.

**— Альбом «Białoruskie hity vol. 1» гурта «Казанова» мае тыя самыя аранжыроўкі, што альбом «Мы зайграем, заспяваем» гурта «Сaprі». Гурт «Сaprі» ўзяў у вас гэтыя аранжыроўкі?**

— Так, таму што гэтых аранжыровак ніхто нікому не шкадаваў. Яны перапісвалі ад нас. Толькі пасля гадоў выпусцілі іх на альбоме. А калісьці яшчэ быў гурт «The Best», беларускія песні спявалі. Яны таксама на нашых аранжыроўках запісвалі.

**— Вы пазней як «Казанова» выдалі другую касету на беларускай мове «Дудка беларуская». Хто рабіў да яе аранжыроўкі?**

— Таксама Алег Пухаў. Мы таксама пісалі да гэтага тэксты. «Дудка беларуская» гэта песня з Беларусі.

**— Тэкст песні «Дудка беларуская» гэта верш Францішка Багушэвіча, вядомага беларускага паэта XIX стагоддзя.**

— Зараз я прыпамінаю, што Алег гаварыў, што гэта верш Багушэвіча.

**— Мне вельмі падабаецца жартаўлівая песня «Сарочка-вышыванка». Хто да яе напісаў тэкст і музыку?**

— Музыка народная, а тэкст песні мы з Алегам напісалі. Селі разам у студыі, смяяліся і напісалі тэкст.

**— Яшчэ ёсць песня «Голае цела». Здаецца, яна з рэпертуару гурта «Грамада»?**

— Так, гэта «Грамада» спявала раней і мы таксама запісалі яе.

**— Была песня «Пакора» — кліматычныя балада, аранжыроўка ў псіхадэлічным стылі...**

— «Пакора» гэта беларуская народная песня. Алег прывёз яе з сабой.

**— А песня «У садочак», здаецца, з рэпертуару гурта «Песняры»?**

— Я зараз не скажу, таму што не ведаю адкуль гэтая песня. Вядомая знаёмая песня, народная, файная, жывая, то і мы запісалі яе.

**— У 2005-2007 гадах было беластоцкае інтэрнэт-тэлебачанне ITV. Яно ў 2006 годзе паказала рэтрансляцыю Фестывалю вясельнай музыкі ў Гайнаўцы. Вы там выступалі з гуртом «Казанова», выконвалі беларускія песні. Як успамінаеце гэтае выступленне?**

— Вельмі файна было тады. Гэта наш родны бок, там многа беларусаў і яны ўмеюць гуляць.

**— Вы таксама выступаеце разам з Паўлам Макарэвічам з Міхалова. Як Вам складаецца супрацоўніцтва з ім у музычным плане?**

— Вельмі добра, толькі Павел мусіць крыху навучыцца спяваць.

**— Вы таксама запісалі два відэакліпы з асвежанымі версіямі старых песень гурта «Казанова» з Mr Sebii. Як Вам з ім працавалася?**

— Беспраблемны чалавек, але мае свае візіі ў галаве. Ён цяжкі для супрацоўніцтва, надта карыслівы. У нашым гурце «Казанова» найважнейшае першае слова, а не грошы, а ў яго наадварот.

**— Ці з «Казановай» выступалі Вы за мяжою?**

— На Беларусі. Пару разоў у Гродне былі, але не на вялікіх імпрэзах, у клубах. Там быў яшчэ праект «Дыскатэка 90-х гадоў». Мелі мы яго рабіць, але беларусы не дагаварыліся паміж сабой і не атрымалася.

**— Вы запісалі дзве касеты на беларускай мове. Ці маеце беларускія карані, ці адчуваеце сябе беларусам?**

— Напэўна. Дарэчы, так як Віталік Штык. Ён нарадзіўся на Сахаліне. Яго бацька беларус. Ён жыў тры гады на Сахаліне, а потым прыехаў на Беласточчыну. Алег па паходжанні паляк з Беларусі, а я па паходжанні беларус з Беласточчыны. Мой дзед нарадзіўся на Беларусі, а мой бацька нарадзіўся ўжо тут.

**— Раскажыце крыху пра свае гітары.**

— Калісьці я шукаў цікавых аб'яў з гітарамі, аднаўляў іх і прадаваў. І так можна было пару злотых зарабіць. Я многа разоў перавозіў інструменты на Беларусь. Яшчэ я тады не ведаў Віталіка Штыка, калі ён на маёй гітары іграў.

**— Ці старыя польскія гітары 1980-х гадоў, выпушчаныя ў Торуні, гэта добрыя інструменты?**

— Калісьці была польская гітара маркі «Samba», а бас называўся «Lotos» дык на гэтыя часы вельмі добра ігралі. Да гэтай пары можна іх у інтэрнэце на Allegro знайсці. Можа быць слабая марка, а экземпляр гітары будзе вельмі добры. Кожная гітарная фірма мае свае добрыя мадэлі.

**— А Вы на якіх гітарах іграеце зараз у гурце «Казанова»?**

— Цяпер Віталік шмат гадоў мае «Peavey Predator». Ён па вельмі добрай цане знайшоў на яе Allegro. Яшчэ мы ігралі на «Fender Stratocaster». У мяне ёсць «Ibanez Pegasus» — лімітаваная серыя, але Віталік кажа, што ў яе надта тонкі грыф. А ў «Peavey» грыф і гук вельмі падобны як у «Stratocaster». Аднак мне гітары маркі «Gibson» найлепшыя па гуку, гэта ідэальная фірма. Але Віталіку форма гэтай фірмы не пасуе.

Я сваю гітару адкупіў ад Ярка Цёскава з беластоцкага блюз-гурта «Kasa Chorych». Тады ў 1989 годзе я заплаціў 103 долары. Помню, што старыя прафесійныя паліцыянты зараблялі па 10-15 долараў штомесячна. Гітара была пабітая, паламаная, парысаваная, але не ў тым справа. Гучанне гітары было цудоўнае. Гітара «Gibson LG» гучала як «Lespol».

**— Вы мусілі год працаваць на гэтую гітару.**

— Я там увогуле тады зарабляў каля 3 долараў у месяц. Але справа ў тым, што гітара была пабітая, парысаваная і мой камандзір не мог зразумець як можна за такое ламачча заплаціць 103 долары, значыць, яго дзесяцімесячны заробак. І ён насіў гэтую гітару па ўсёй часці і пытаў усіх: «Як за такое штосьці можна заплаціць 103 долары!». Людзям гітара гэта гітара. Каб яна была прыгожая, бліскучая, а тут парысаваная, пабітая, бо Ярэк Цёскаў ішоў з канцэрта дахаты і цягнуў яе за грыф па сходах. Але найважнейшае, што гук гітары быў знакаміты. Я такой гітары яшчэ не меў. А потым даў я яе для абнаўлення, але лютнік дрэнна зрабіў, то я яе прадаў за смешныя грошы. Сапраўды, папсаваў мне гучанне гітары.

**— А хто Вас вучыў іграць на гітары?**

— Сам вучыўся. Бацька калісьці на мандаліне іграў. Помню, я быў малы і бачу ў мандаліне, што за халера — кожны ключ (для настройкі) інакш стаіць? Я ўсе ключы ўстаўлю роўненька ў радок — восем ключоў з аднаго боку і восем з другога. Прыходзіць бацька і крычыць: «Што за халера?! Хто мне расстроіў мандаліну?!» (*смех*). Бацька нанава строіць мандаліну, а я прыходжу і гляджу — зноў крыва стаяць (*смех*).

Калі я быў маленькі, меў тры годзікі, у мяне быў конік-гушкалка. Прыходзяць да бацькі сябры выпіць, я коніка выцягну на сярэдзіну хаты і спяваю рускія песні. Мяне адна настаўніца вучыла спяваць гэтыя песні.

**— Вельмі Вам дзякую за размову.**

Гутарыў **Юрка БУЙНЮК**

# Заява **арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча** — мітрапаліта Менска-Магілёўскага, старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі адносна сітуацыі ў Курапатах

Праходзячы за мяжой курс рэабілітацыі пасля складанай аперацыі па стабілізацыі пазванкоў металаканструкцыямі, я, тым не менш, сачу за падзеямі, якія адбываюцца на маёй Радзіме. Сёння сродкі масавай інфармацыі напоўнены трывожнымі звесткамі пра знос крыжоў у мемарыяльным комплексе ва ўрочышчы Курапаты, які разам са шматлікімі іншымі падобнымі месцамі на нашай Бацькаўшчыне з'яўляецца яе Галгофай і адначасова помнікам гісторыі і культуры. Праблема Курапатаў цягнецца ўжо даўно і мае глыбокія карані, але яе неабходна як мага хутчэй вырашыць. Пасля таго, як напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя шырокай грамадскасці стала вядома пра месца злачынства, неабходна было правесці адпаведныя і грунтоўныя даследаванні, як гэта зроблена ў іншых падобных месцах масавых пахаванняў, каб мець упэўненасць у тым, што тут адбылося. Кожнае месца смерці і пахавання паводле хрысціянскай — і не толькі — традыцыі ўшаноўваецца. Гэтае месца — святое: месца памяці і малітвы. Гэта таксама неад'емная частка гісторыі народа, без пазнання і ацэнкі якой ён не мае будучыні. Кожны народ павінен ведаць і паважаць гістарычную праўду з мэтай ачышчэння памяці, як да гэтага заклікае св. Ян Павел II, каб паспяхова будаваць шчаслівую будучыню. На жаль, своечасова гэта не было зроблена, і ў выніку пачалі ўзнікаць праблемы. У кастрычніку было паведамлена, што да канца мінулага года ў Курапатах будзе ўстаноўлены памятны знак, каля якога таксама можна будзе памаліцца. Аднак ніхто не спытаў прадстаўнікоў веравызнанняў, як павінна выглядаць месца малітвы, асабліва капліца: ці яна павінна быць міжканфесійнай



і міжрэлігійнай, ці, можа, лепш кожнаму веравызнанню мець сваю. Між тым неабыякавыя да трагедыі масавых забойстваў людзі прыходзілі ў Курапаты, каб памаліцца, і імкнуліся нейкім чынам пазначыць гэтае месца і ўшанаваць памяць забітых і пахаваных тут продкаў і суайчыннікаў. Такім чынам ва ўрочышчы з'явіліся крыжы, як гэта спрадвеку прынята рабіць на магілках і ў месцах пахаванняў. Крыжы ставілі без афіцыйнага дазволу, але ўлада не забараняла гэтага рабіць. За апошнія 30 гадоў паступова з'явіўся своеасаблівы «Курапацкі пантэон» — стыхійны мемарыял, вядомы ва ўсім свеце. Таму нечаканы знос крыжоў выклікае, мякка кажучы, здзіўленне. Ніхто не кажа пра тое, што не трэба ўпарадкаваць тэрыторыю ўрочышча Курапаты, але не коштам абразы пачуццяў вернікаў. Я лічу, што неабходна арганізаваць грамадскае абмеркаванне плана ўпарадкавання тэрыторыі Курапатаў з удзелам прадстаўнікоў розных веравызнанняў. Больш за тое, акцыя зносу крыжоў праводзіцца падчас Вялікага посту, калі ўсе хрысціяне свой позірк скіроўваюць на Крыж Хрыста — знак нашага збаўлення і надзеі. З крыжам ваявалі атэісты, нішчылі яго. На вялікі жаль, сёння, калі афіцыйна няма дзяржаўнай ідэалогіі атэізму, яна зноў рэальна праяўляецца. Заклікаю адказных за знос крыжоў тэрмінова спыніць гэтыя дзеянні і шляхам дыялогу розных палітычных і грамадскіх сіл з удзелам прадстаўнікоў розных веравызнанняў пачаць працэс урэгулявання сітуацыі. Наша краіна патрабуе стабільнасці, а раскачванне чоўна палітычнага і грамадскага жыцця супярэчыць гэтаму. Крыж не павінен падзяляць, бо ён яднае неба з зямлёю, а людзей — паміж сабою ў адзіную сям'ю братоў і сясцёр. Нездарма нават вядомы кожнаму з першага класа знак складання выглядае менавіта ў форме крыжыка.

З надзеяй і малітвай аб мірным вырашэнні праблемы арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч мітрапаліт Менска-Магілёўскі, старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Беласток, 4 красавіка 2019 г.

**Паводле: catholic.by**

КАРЦІННАЯ ГАЛЕРЭЯ КАСТУСЯ КАЧАНА

## https://kachangallery.com

Кажуць, што мастацтва не здолее само выжыць без падтрымкі якіх-кольвечы мецэнатаў альбо дзяржаўнага фінансавання. Але часам здараецца, што мастак бывае бізнесменам. І такое спалучэнне можа быць вельмі ўдалым. Прыкладам такога сімбіёзу можна назваць справу навагрудскага мастака Кастуся Качана, які мае ў Навагрудку (ці Навагрудку, як называе гэты горад на польскі манер афіцыйная беларуская тапаніміка) уласную карцінную галерэю. Для таго, каб пазнаёміцца з ёй хоць віртуальна, варта зазірнуць на сайт, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://kachangallery.com**.

Першы позірк на выяву, якая размешчана на галоўнай старонцы сайта, дае зразумець, што там ёсць на што паглядзець, а значыць, затрымацца надоўга. Па-першае, значная колькасць рубрык, па-другое, мноства фотаздымкаў, па-трэцяе, выдатнае афармленне гэтага віртуальнага прадстаўніцтва. Нават нягледзячы на тое, што большасць паведамленняў датуецца 2018 годам, бачна, што інфармацыя не страціла актуальнасці. Напрыклад, у рубрыцы „Пра галерэю" распавядаецца, што рамантычная мара аб уласнай карціннай галерэі ў Кастуся Качана ўзнікла напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Калі ўзгадаць той час, то гэта быў перыяд скону камуністычнай сістэмы і разняволення прыватнай ініцыятывы.

„Магчымасць здзейсніць задуманае з'явілася толькі ў 2005 годзе. Тады Кастусь Качан набыў будынак з пляцам у сэрцы старажытнага Навагрудка, насупраць Замкавай гары. Але так як месца з'яўлялася гістарычным помнікам, на ўзгадненне неабходных папер спатрэбіўся час. Актыўнае будаўніцтва галерэі пачалося ўлетку 2008 года. Першыя наведвальнікі завіталі ў сядзібу мастака ў 2012 годзе. А ўрачыстая і афіцыйная прыватная карцінная галерэя песняра беларускіх мястэчак Кастуся Качана адчыніла свае дзверы для гасцей з усяго свету 20 чэрвеня 2014 года", — распавядаецца ў дадзенай рубрыцы. Там жа змешчана мноства фотаздымкаў будынка галерэі і ўнутраных памяшканняў.

Уласна будынак, як пазначана на сайце, створаны ў заходнебеларускім палацавым стылі па спецыяльным праекце славутага архітэктара Лявонція Зданевіча, прычым рукамі самога Кастуся Качана. Апошняе не зусім зразумела, бо не канкрэтызуецца, ці Качан уласнаручна будаваў гэты прыгожы дом.

Згодна рубрыцы „Экспазіцыя", у галерэі ёсць асноўны альбом і абраныя творы. Дадзеныя падрубрыкі змяшчаюць выявы карцін, якія аўтар падзяліў па адным яму вядомым прынцыпе.

Уласна пра мастака мы можам прачытаць у аднайменнай рубрыцы. Адтуль даведаемся, што нарадзіўся ён у 1950 годзе ў вёсцы Лаўрышава Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. З 1980 года пачаў актыўна ўдзельнічаць у мастацкіх выставах. Кастусь Качан працуе ў станковым жывапісе ў жанрах нацюрморту, пейзажу. Згодна прадстаўленых у рубрыцы звестак пра яго творчасць, актыўна ўдзельнічаць у выставах мастак працягвае і дагэтуль. Так, апошняя па ліку была ў Мінску ў 2018 годзе.

Аб навінах і падзеях, датычных дзейнасці Качана, можна даведацца, зайшоўшы на аднайменную рубрыку. Праўда, там не адразу адкрываецца тая інфармацыя, якую мы чакаем. Каб прычытаць аб навінах і падзеях нам прыйдзецца яшчэ раз прайсці па гіперспасылцы, размешчанай у дадзенай рубрыцы. Гэта, хіба, адзіная нязручнасць сайта.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

## 100 гадоў з часу ўтварэння

# «Зялёнага дуба»

Некаторыя гісторыкі лічаць, што дзейнасць легендарнага „Зялёнага дуба" пачалася яшчэ ў 1910 г., калі ён быў культурніцкай моладзевай арганізацыяй, якая арыентавалася на сялянства і інтэлігенцыю. Але дакладна вядома, што баявыя дзеянні арганізацыя „Зялёны дуб" пачала ўлетку 1919 г. па ініцыятыве Беларускай вайсковай камісіі і Беларускага палітычнага камітэта ў Варшаве. Таму пунктам адліку ёсць падставы лічыць менавіта 1919 г. У гэтым годзе газеты „Звон" і „Беларусь" надрукавалі „Дзённік арміі Зялёнага дуба", складзены кіраўніком арганізацыі Вячаславам Адамовічам (вядомы таксама як атаман Дзяргач). Адамовіч — удзельнік Першай сусветнай вайны, падпаручнік. У 1917 г. праводзіў беларускую нацыянальную працу сярод апалчэнцаў 1-й Менскай дружыны і слухачоў Менскай духоўнай семінарыі. У 1918-1919 гг. вучыўся на менскіх беларускіх настаўніцкіх курсах. Удзельнічаў у працы Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва, як харыст уваходзіў у склад Беларускага хору Уладзіміра Тэраўскага.

Увосень 1920 г. быў створаны Галоўны штаб партызанскіх аддзелаў, які ўзначаліў палкоўнік Уладзімір Ксяневіч (партыйная мянушка Грач), і складзены тэкст Статута. Згодна са Статутам, дзяржаўны лад Беларусі і зямельнае пытанне павінен быў вызначыць Устаноўчы сход. Прадугледжвалася інтэнсіўная беларусізацыя, а таксама арыентацыя на Захад, Польшчу і Украіну. На пячатцы „Зялёнага дуба" змяшчалася выява „Пагоні", а таксама чэрап і скрыжаваныя косці. Адначасна штаб арганізацыі і атаман Дзяргач карысталіся пячаткай з выявай трох дубовых лісткоў.

Галоўны штаб „Зялёнага дуба" знаходзіўся ў Лунінцы, які ў той час уваходзіў у склад Польшчы. Там аддзелы камплектаваліся, узбройваліся і накіроўваліся ў БССР. На пачатку ваяроў было ўсяго 400 чалавек. Яны былі згуртаваныя ў „пяцёркі", якія сваім парадкам станавіліся ядром асобных паўстанцкіх аддзелаў, цэнтрамі прыцягнення незадаволенага бальшавіцкім рэжымам сялянства. З часам у „Зялёны дуб" увайшлі партызанскія аддзелы, якія ачольвалі атаманы Вайцяхоўскі, браты Караткевічы, Касінскі, Мацэля, Лебедзеў, Цярэнцеў, Юшчанка. „Зялёнадубцы" вялі баявыя дзеянні ў Слуцкім, Мазырскім, Бабруйскім, Барысаўскім, Ігуменскім паветах. Атаман Дзяргач кіраваў палескімі аддзеламі „Зялёнага дуба".

У канцы 1920 г. у прыфрантавой паласе з абодвух бакоў дэмаркацыйнай лініі дзеіла больш за дзесяць беларускіх партызанскіх аддзелаў, якія выступалі пад супольным найменнем „Зялёны дуб". Са згоды і пры падтрымцы польскай выведкі партызаны рабілі напады на кантраляваную савецкім войскам тэрыторыю, а ў разе небяспекі адыходзілі ў Польшчу. Многія беларускія афіцэры, якія ўдзельнічалі ў вайне з бальшавікамі на пачатку 1921 г., замірэнне на польска-савецкай мяжы лічылі часовым становішчам. У гэтым перакананні праўдападобна ўмацоўвалі іх прадстаўнікі польскай выведкі, якія пастаўлялі ім зброю і сродкі на ўтрыманне аддзелаў. Пасля падпісання 18 сакавіка 1921 г. Рыжскай мірнай дамовы частка камандзіраў „Зялёнага дуба" прызнала беларускі эміграцыйны ўрад Вацлава Ластоўскага адзіным прадстаўніцтвам беларускага народа. Многія памянялі фронт: спынілі антысавецкую партызанскую дзейнасць і далучыліся да антыпольскага руху, які арганізаваў ковенскі цэнтр на тэрыторыі Гродзеншчыны і Віленшчыны.

Апошнія звесткі пра „Зялёны дуб" адносяцца да пачатку 1930-х гг.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўская «Прыгранічная»

(заканчэнне)

Чыгуначнікам два разы ў месяц плацілі зарплату — першага і пятнаццатага чысла. Для рабочых дзень палучкі быў святам. Перад акенцам станцыйнай касы чарга за выплатай фарміравалася на гадзіну раней. Першымі заўжды былі рабочыя начной змены — манеўровыя, стрэлачнікі, дзяжурныя. Спяшаліся яны не да сямейкі пасля начной службы, але... кульнуць «адно маленьке». І ўжо перад дзясятай шнурочкам усёй кампаніяй цягнуліся ў «Прыгранічную». Займалі яны месцы ў першай зале і чакалі чатырнаццатай гадзіны, бо з таго часу ў рэстаране пачыналі прадаваць алкагольныя напіткі.

І ўсё ажывала. Пачынаўся рух, быццам у мурашніку. Людзі пілі да ўпаду паводле прымаўкі: «Прашчай розум, сустрэнемся пад сталом». Не шкадавалі ні здароўя, ні грошай. А самае важнае, парушалі спакой іншых. Вось, напрыклад, пры канцы лютага 1975 года чатырох «малайцоў» учынілі бойку ў зале. Пабілі многа пасуды. Зразу хуліганамі занялася мясцовая міліцыя. Справа трапіла ў карна-адміністрацыйную калегію. Неўзабаве дэбашыры атрымалі прысуд: Збігнеў Д. — 4 500 зл. штрафу, затым Уладзімір Я. — 2 000 зл. і 300 зл. за страты для рэстарана. Калегія ўмоўна адступіла ад пакарання двух апошніх «барцоў» Сцяпана М. і Станіслава В., хоць і яны былі вінаваты. Такіх скандалаў у «Прыгранічнай» было намнога больш. Затым рэстарану прышпілілі мянушку «няслаўнай», якая засталася па сённяшні дзень. Але ўсё ж такі «Прыгранічная» лічылася рэстаранам II катэгорыі і была візітнай картачкай чыгуначнікаў. Звонку прэзенталася шыкарна, маніла прыезджых. Хто ўпершыню наведваў разынку чаромхаўскай гастраноміі, дык забіраў з сабою непрыемны смак відовішча, якое ўгледзеў. Праўда, харчаванне нядрэннае і не надта дарагое было, афіцыянткі таксама граху вартыя, маладзенькія ды нябрыдкія. Але абслуга — барані Бог ад «нячыстай сілы»...

Калі б я не зайшоў у «Прыгранічную», заўжды вітаў мяне гоман шматлікіх галасоў. Першая зала — поўная аматараў піва і мацнейшых напіткаў. Яны лічыліся «ганаровымі» гасцямі афіцыянтак. Пазачаргова іх абслугоўвалі (вядома, ап'янелага хутчэй абдурыць можна). Хто прыйшоў паабедаць, дык вымушаны быў чакаць бясконца. Чаканне было б прыемнейшае, калі б чалавек мог сесці за чысты стол. А тут адзін Садом ды Гамора. Акуркі папярос, попел, «батарэі» пустых бутэлек з-пад піва, брудны посуд выклікалі непрыемнае відовішча. Прытым ад гоману ап'янелых крыкуноў вушы пухлі. Афіцыянткі як уюны завіхаліся, не паспявалі абслугоўваць. З усіх бакоў несліся галасы: «Кельнер, піва, кельнер сотку». Хтосьці хрыплым голасам падпяваў: «Равела бура, гром грымеў», другі яму памагаў. Бясплатны выступ... І ў гэтым гомане прыходзілася чакаць афіцыянтку, каб падала абед. Але яна не спяшалася, бо абслугоўвала «ганаровых» гасцей. Такіх гарачых дзён у «Прыгранічнай» было чатыры-шэсць у месяцы: першага і пятнаццатага чысла — у дні палучкі, затым дзень-два пасля выплаты. У апошнія дні — цішыня, быццам макам засеяў. Для Кляшчэлеўскага ГС гэта быў нявыкарыстаны рэзерв. Некаторыя меркавалі тут арганізаваць «дансінгі», але ідэя памерла сваёй смерцю. Маладым ад «Прыгранічнай» зараз адно ўспаміны засталіся.

Пасля заняпаду ГС рэстаран купіла Кляшчэлеўская мясарня «Нітэрва». Некалькі гадоў змяшчалася ў ёй фірменная крама. Калі стала нерэнтабельнай, дык «Нітэрва» прадала яе суполцы «Левіятан». Пасля чарговага рамонту і мадэрнізацыі адкрылі маркет «Левіятан», які ў наваколлі карыстаецца папулярнасцю пакупнікоў. Вось такая гісторыя „няслаўнай «Прыгранічнай»".

Уладзімір СІДАРУК

# Незабыўная Лука

5 красавіка гэтага года ў галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета адкрылі выстаўку здымкаў колішняй вёскі Лука над Нарвай з самага пачатку мінулага стагоддзя аўтарства жыхара гэтай вёскі фатографа Якуба Смольскага. Экспазіцыю складаюць 90 старых фатаграфій сярэдняга і вялікага фармату. Будзе яна працаваць да мая г. г. У галерэі можна купіць фотаальбом. Многія яго ўжо маюць і берагуць яго як самую дарагую памятку.

Аўтар не жыве, але яго шматлікія працы захаваліся да сённяшніх дзён. На чорна-белых фатаграфіях можна пабачыць перш-наперш даўніх жыхароў затопленай вялікай вёскі Лука (цяпер на яе месцы Семяноўскае вадасховішча) ва ўсіх узроставых групах. На мерапрыемства прыйшло і прыехала паўсотні людзей, у тым ліку былых жыхароў Лукі (між іншым, Алег Латышонак, Войцех Кавальчук), Гушчэвіны, Нараўкі, Новай Лукі, Новага Ляўкова, Новага Масева, Плянты, Сушчага Барка, Тарнопаля.

Пра Якуба Смольскага (краўца і фатографа) і пра захаваных яго 220 фотаздымках цікава распавёў Войцех Кавальчук, куратар выстаўкі. Варта дадаць, што здымкі Якуба Смольскага знаходзяцца ў зборах Падляшскага музея народнай культуры ў Васількаве. Маюць яны гістарычную і этнаграфічную вартасць. Гэта цэнная памятка з мінуўшчыны.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# 14.04 — 20.04

**(22.03. — 20.04.)** 14-16.04. іграй на латарэі. Надышло тваіх пяць хвілін! На працы можаш атрымаць экстрапрэмію. Маеш зялёнае святло ва ўсім, да чаго дакранешся — заменіцца ў золата. Шчасліва дагаворышся з усімі, пашанцуе табе ў перамовах і падарожжах, будзеш прадпрымальны і спрытны. Вялікія ўдачы ў інтарэсах. Адбудуеш парваныя адносіны, зачыніш старыя справы.

**(21.04. — 21.05.)** 14-16.04. пагаснуць канфлікты і непаразуменні. 14-15.04. нечаканыя аварыі, з якімі цяжка справіцца. Новыя энергіі, новыя надзеі, зацікаўленні і здольнасці. Не бяры ў сэрца благога, не рабі нічога на сілу. Падабаешся. Але 14-18.04. рандэву з былым партнёрам можа аказацца правалам. Затое можаш купіць сабе нейкі каштоўны гаджэт. Не рабі цяпер на працы ніякіх рэвалюцый.

**(22.05. — 21.06.)** 14-18.04. цяжкі перыяд у пары. Рэальная ацэнка сітуацыі; справішся ў кожнай. Маеш шанц на амбітныя і вялікія мерапрыемствы. 17.04. можаш пачаць карэспандэнцыю з нейкай зіхоткай асобай. У пастаянных парах атмасфера далёкая да ідыліі. Але крылаў дадасць табе Меркурый, хутка справішся з прафесійнымі абавязкамі. Не ўцячэ ад цябе ніякая інфармацыя, хутка «пажэніш» факты і дойдзеш да трапных высноў. Блізняты з I дэкады сапраўды адыграюцца на канкурэнцыі.

**(22.06. — 23.07.)** 14.04. можаш пастарацца за крэдыт. Сарганізаванасць, спраўнасць, асабліва там, дзе трэба дакладнасць і пільнасць ды цярплівасць. На працы цябе ніхто не заменіць, хаця 18-20.04. магчымыя праблемы з кіраўніцтвам. Пасля расстання не будзеш доўга чакаць, бо ўжо толькі да 16.04. Доўгія размовы і хвіліны блізкасці ад 19.04. На працы супрацоўнічай, разам выйдзе ўсё лепш. Не фарсіруй здароўя.

**(24.07.—23.08.)** 14-15.04 не ўваходзь у спрэчку, бо можаш прайграць. Ад 17.04. маеш непераможную сілу пераконвання. 14-16.04. вельмі пабуджаная амбіцыя. 18-20.04. — найлепшы час разглянуцца за новай працай, а можа гэта яна цябе знойдзе. Сіла волі і амбітнасць. Столькі запалу, што можаш пераносіць горы! Трымайся сваіх прынцыпаў, будзь рашучы, а дойдзеш да таго, на чым табе залежыць.

**(24.08. — 23.09.)** Маланкава аформіш кожную справу, работа будзе гарэць табе ў руках. Свет убачыш у колерах. Добры час для кахання да 17.04. Спакайней на працы. У фінансах не ўсё пойдзе па тваёй думцы. Не пераборшч з алкаголем.

**(24.09. — 23.10.)** 14.04. можаш падпісаць дамову з банкам. 15-20.04. — зоркі прыцягнуць да цябе файных людзей, з якімі добра загуляеш. Але 14-18.04. штосьці можа выбіць цябе з раўнавагі і можаш наракаць і драматызаваць. У пастаяннай пары — ідылія, але калі хочаш перакanaць да чагосьці сваю другую палавінку, зрабі гэта 14-16.04. 14-18.04 спадзявайся нейкай прыбытковай экстрападработкі.

**(24.10. — 22.11.)** Канфлікты на працы папсуюць табе настрой. Паправяць яго сустрэчы з сябрамі. Заспее цябе каханне, асабліва 14.04. 14-15.04. падвядзе цябе асоба, якой ты давяраў. Усё рабі абдумана і не выконвай нервовых рухаў. Шанцы на пастаянныя прыбыткі. Не заядай і не запівай алкаголем стрэсаў. Папівай зёлкі.

**(23.11. — 22.12.)** Ніхто не пераможа цябе ў гонцы да павышэння і поспехаў! Прыхільныя табе будуць нават планетарныя квадратуры! Творчая вена. Усе акалічнасці табе спрыяюць. Флірт заменіцца ў раман. 14-15.04. з шафы могуць выпасці нейкія сямейны «трупы», але ўвапхнеш іх туды назад. Пры ўласнай дзейнасці шырокі рынак адкрыецца 14-18.04. Не еж тлустага і салонага.

**(23.12. — 20.01.)** 14.04. задбай аб свой выгляд і купі штосьці на распродажы. 14-15.04 магчымы кароткія буры ў пары. Пасля 17.04. будзеш хуткім і паспяховым. 18-20.04. могуць турбаваць цябе непатрэбна нервы. Народжаных у I дэкадзе чакаюць важныя сустрэчы з уплывовымі людзьмі. Крайнія настроі. Не горбіся.

**(21.01. — 19.02.)** Добры настрой. Людзі ахвотна памогуць табе паафармляць справы. 14-16.04 шэф гляне на цябе зычліва. 18-20.04. здарыцца штосьці, што цябе зблізіць з партнёрам. 20.04. паявіцца хтосьці ідэальны для твайго сэрца. Вельмі добрая паласа пачнецца для цябе з 17.04. — можа паявіцца прапанова на супрацоўніцтва ці супольны бізнес. Грошы дадуць табе пачуццё свабоды, незалежнасць і свабоду дзеяння, і захочаш іх мець! Варта змяніць крыху жыццё, кудысьці з'ездзіць ці сустрэцца. Уцякай ад сквазняку.

**(20.02. — 21.03.)** Выкарыстаеш свой дар пераконвання, выклічаш вялікае ўражанне. 14-18.04 у парах на грані расстання ажывуць пачуцці. У бізнесе рэкламуйся асабліва 14-16.04. Калорыі спальвай у спальні! Хаця дбай, каб не намагчы пазваночніка і суставаў. Можаш цяпер эфектыўна працаваць са сваім целам, запішыся на трэнінгі, ёгу. На кухні адкрывай новыя смакі, нішто цяпер на пойдзе табе ў бачкі. Калі ты самотны, зрабі сябе на бажаство і разглядайся за каханнем жыцця!

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. з кіслародам у паветры = 2 _ 1 _ 6 _ 5 _;
2. правы прыток Волгі = 14 _ 16 _ 17 _;
3. адрослая з сенакосу трава = 25 _ 24 _ 10 _ 11 _ 4 _;
4. храбры чалавек, за якім подзвіг = 18 _ 7 _ 30 _ 19 _ 28 _;
5. нагрувашчанасць упоперак дарогі, у якой... авал = 20 _ 31 _ 32 _ 23 _ 22 _;
6. лётчык = 8 _ 12 _ 13 _ 27 _ 26 _;
7. грузінскі порт = 29 _ 21 _ 34 _ 33 _;
8. прыстасаванне для кіравання напрамкам руху самахода = 9 _ 15 _ 3 _ 35 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**

Заяц, знак, ля, патрыцый, Пінск, рой, сіці, туя, цар.

Рашэнне: **Трапіцца і сляпой курыцы зярнятка знайсці**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Захаваць памяць аб ахвярах

Беларускае гістарычнае таварыства і Фонд Kamunikat.org рэалізуюць праект **«Наша памяць»**, адкрыты на асоб розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Плёнам праекта з'яўляецца, між іншым, выстава «Наша памяць», якая першы раз прэзентавалася ў Залешанах 29 студзеня гэтага года, у 73-ю гадавіну пацыфікацыі вёскі 3-й Віленскай брыгадай НВЗ пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса «Бурага». Яшчэ ў студзені экспазіцыя наведала Бельск-Падляшскі ў сувязі з ушанаваннем памяці вазакоў, застрэленых 31 студзеня 1946 года каля Пухалаў-Старых, астанкі якіх былі перапахаваны на мясцовы вайсковы могільнік. Выстава «Наша памяць» прэзентавалася таксама 23 лютага на скверы каля магістрата ў Гайнаўцы падчас ініцыятывы «Вечная памяць» перад Маршам памяці выклятых жаўнераў і паказвалася ў Беластоку. З мэтай захаваць памяць аб ахвярах атрада пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса «Бурага», які ў 1946 годзе пацыфікаваў беларускія вёскі, гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, у супрацоўніцтве з Беларускім гістарычным таварыствам і Фондам Kamunikat.org рашыліся другі раз паказаць у Гайнаўцы 31 сакавіка экспазіцыю «Наша памяць». Адбылося гэта пры нагодзе даклада старшыні Беларускага гістарычнага таварыства, прафесара Універсітэта ў Беластоку Алега Латышонка на тэму падзей на Беласточчыне ў канцы студзеня і пачатку лютага 1946 года. Сабраным у Гайнаўскім доме культуры распавёў ён таксама пра рэалізацыю праекта «Наша памяць» і аднайменную выставу, якая была расстаўленая ў калідоры ГДК. Падчас дыскусіі Марыюш Нічыпарук з Грабаўца расказаў падрабязна пра злачынствы, здзейсненыя ў Залешанах, між іншым на іх продках, атрадам 3-й Віленскай брыгады НВЗ, якім камандаваў капітан Рамуальд Райс.



Марыюш Нічыпарук расказаў як загінулі ў Залешанах першая жонка яго дзядулі з дзеткамі і дзядулеў брат з сямейнікамі

Прафесар Універсітэта ў Беластоку Алег Латышонак

Старшыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія Люцына Рушук прывітала сабраных у канцэртнай зале ГДК, сярод якіх былі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, намесніца старасты Гайнаўскага павета Іаанна Койла, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч і святары Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы — апякун гайнаўскага аддзялення праваслаўнага брацтва протаіерэй Марк Юрчук і іерэй Хрыстафор Кудэрскі.

— Мы выступілі да Беларускага гістарычнага таварыства з прапановай другі раз запрэзентаваць выставу «Наша памяць», якая паказвалася ў Гайнаўцы ў дзень Маршу выклятых жаўнераў і прыблізіць гайнавянам праўдзівую гісторыю пацыфікацыі нашых вёсак і забойства вазакоў атрадам «Бурага», удакументаваную пракурорскім следствам Інстытута нацыянальнай памяці і даследаваную Беларускім гістарычным таварыствам пры нагодзе рэалізацыі праекта «Наша памяць». Сённяшні даклад прафесара Алега Латышонка і прэзентацыя выставы асабліва важныя маладым асобам. У Гайнаўцы яшчэ жывуць нашчадкі асоб забітых атрадам «Бурага» і перад сёлетнім Маршам памяці выклятых жаўнераў, а пасля малітваў за гэтыя ахвяры, дзве такія асобы ў царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы ўспаміналі пра забойства іх продкаў атрадам «Бурага». Важна, каб гісторык сёння дэталёва расказаў пра трагедыю, якая спасцігла нашых жыхароў пасля вайны, — заявіла старшыня брацтва Люцына Рушук.

Старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак паінфармаваў, што 3-я Віленская брыгада НВЗ, якая стала дзейнічаць пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса, налічвала 120 добра ўзброеных чалавек.

— 28 студзеня 1946 года раніцай атрад «Бурага» дайшоў да вёскі Лазіцы. Тут па загадзе мясцовых улад былі сабраны сяляне з акалічных вёсак з вазамі дзеля вывазу драўніны з пушчы. Атрад капітана Рамуальда Райса затрымаў каля сарака вазакоў і з Лазіцаў накіраваўся ў Гайнаўку. Атакаваў яе вечарам гэтага самага дня, але быў выцеснены савецкімі часцямі. Раніцай 29 студзеня атрад «Бурага» спыніўся ў Залешанах, дзе ад агню і куль загінула 16 мірных асоб, у тым ліку дзве жанчыны і дзявяцера дзяцей, — распавядаў прафесар Алег Латышонак.



Даклад прафесара Алега Латышонка і выставы аб пасляваеннай трагедыі асабліва важныя маладым асобам, — заявіла Люцына Рушук (на першым плане дае інтэрв'ю журналістцы, на фоне экспазіцыі «Наша памяць», — А.М.)

На 13 стэндах выставы «Наша памяць» прадстаўлены паслядоўнасці маршу атрада «Бурага» ў студзені і лютым 1946 года, які тады пацыфікаваў 5 беларускіх вёсак на Беласточчыне, застрэліў 30 вазакоў каля Пухалаў-Старых, калі разам ад куль і агню загінула 80 мірных жыхароў, у тым ліку жанчыны і дзеці. У пацыфікаваных вёсках раскідваліся лістоўкі з заклікам да беларусаў выязджаць у СССР. Прафесар Алег Латышонак удакладніў, што пазней «Буры» быў арыштаваны і прысуджаны да пакарання смерцю; прысуд быў выкананы. У 1995 годзе капітан Рамуальд Райс быў рэабілітаваны судом, а ў 2005 годзе падчас пракурорскага расследавання ІНП «Буры» быў прызнаны віноўным пералічаных прафесарам Алегам Латышонкам злачынстваў. Госць сустрэчы распавёў таксама пра праект «Наша памяць». Дакладчык сказаў, што ў навейшых публікацыях польскіх аўтараў робяцца спробы апраўдаць дзеянні «Бурага» і яго атрада.

— Вялікую адвагу праявіў жаўнер атрада «Бурага», які насуперак загаду выпусціў вольна людзей з падпаленай хаты, калі «Буры» выехаў з вёскі. Мой дзядуля неаднакратна ўспамінаў, што падчас судовага расследавання гэты жаўнер заявіў, што калі б «Буры» даведаўся, што ён без стралянія пусціў вольнымі жыхароў Залешан, то забіў бы яго. Можна адшукаць матэрыялы з гэтага судовага расследавання, знайсці прозвішча гэтага жаўнера, які быў вельмі адважны. Нягледзячы на пагрозу смерці, пусціў вольна жыхароў Залешан і паводзіў сябе як герой, — гаварыў у час спаткання Марыюш Нічыпарук.

Прафесар Алег Латышонак заявіў, што найбольш верагодным з'яўляецца тлумачэнне, што атрад «Бурага» забіваў беларусаў, а пускаў жывымі палякаў, якраз па прычыне намеру запалохаць беларусаў і прымусіць іх выязджаць у Савецкі Саюз.

— «Наша памяць», гэта памяць аб тым, што ў пасляваенных польска-беларускіх адносінах здарылася сапраўды, а што ніколі не павінна здарыцца. Рэалізуючы праект «Наша памяць», летам мінулага года мы пабывалі ў розных вёсках, спалучаных па-рознаму з пасляваеннымі злачынствамі атрада «Бурага». У час выездаў, у якіх прымалі ўдзел многія асобы, якія хацелі нам дапамагчы, у тым ліку і палякі, сабралі мы фатаграфіі. Гэтыя здымкі, папоўненыя архіўнымі фатаграфіямі, паказваем на выставах. Спачатку мы саставілі дакументацыю месцаў памяці, якія ўвекавечваюць самыя трагічныя здарэнні, пацыфікацыю беларускіх вёсак спецатрадам 3-й Віленскай брыгады НВЗ пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса «Бурага» і будзем намагацца, каб яны ахоўваліся на дзяржаўным узроўні. Хочам паклапаціцца пра магілы ахвяр, збудаваць ім помнікі, на якіх будуць змешчаны надпісы, таксама і на беларускай мове, паколькі яны загінулі як беларусы. Маем намер выдаць зборнікі дакументаў, як архіўных, так і апублікаваных, расказы сведак здарэнняў і весці адукацыйную акцыю, — паведаміў прафесар Алег Латышонак.

Падчас выступлення ў ГДК прафесар Латышонак гаварыў таксама пра навейшыя спробы апраўдаць «Бурага», якія паявіліся на сайце Інстытута нацыянальнай памяці. Крытыкаваліся яны не толькі беларусамі ў Польшчы і ўладамі Рэспублікі Беларусь, але таксама прадстаўнікамі навуковага польскага гістарычнага асяроддзя, што ў такім вялікім маштабе здарылася ўпершыню. Пазней на сайце Інстытута нацыянальнай памяці з'явілася паведамленне, што супрацоўнікі ІНП, якія змясцілі свае высновы наконт «Бурага», і Галоўная камісія па пераследзе злачынстваў супраць польскага народа працуюць незалежна ад сябе. Камісія па пераследзе злачынстваў супраць нацыі не знайшла і не змясціла на сайце ІНП ні адной новай інфармацыі па расследаванні ў справе «Бурага» і яго атрада, закончанага ў 2005 годзе. Прафесар Алег Латышонак удакладніў, што новыя публікацыі, якія палемізуюць з высновамі пракурорскага следства, не маюць юрыдычнай сілы і не ўплываюць на вынік следства, закончанага ў 2005 годзе.

Дзве асобы ад сабранай у ГДК публікі станоўча ацанілі маршы памяці выклятым жаўнерам, арганізаваныя ў Гайнаўцы. У сувязі з такімі выказваннямі Марыюш Нічыпарук падрабязна расказаў, як загінула ў Залешанах першая жонка яго дзядулі з дзеткамі і дзядулеў брат з сямейнікамі, да якіх стралялі партызаны атрада «Бурага», калі тыя выбягалі з падпаленых хат. Жанчына ад публікі заявіла, што сёлета прыняла ўдзел у гайнаўскім маршы, які ацаніла станоўча. Заклікала яна арганізаваць у наступным годзе ў Гайнаўцы іншыя, чым марш, святкаванні памяці выклятым жаўнерам пад патранатам бургамістра горада. Яшчэ падчас знаёмства сабраных з выставай «Наша памяць», якое адбылося перад дакладам, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак сказаў, што не згаджаўся на сёлетні марш, паколькі пракуратура ў Беластоку вяла расследаванне ў справе падазрэння ў прапагандаванні падчас мінулагодняга маршу недазволеных у Польшчы сімвалаў і ў закліканні да нянавісці на нацыянальнай і рэлігійнай глебе. Бургамістр Ежы Сірак дабавіў, што асоба «Бурага» ўвесь час выклікае вялікі супраціў у вялікай часткі грамадства Гайнаўкі, дзе жывуць нашчадкі ахвяр атрада «Бурага», а ўдзельнікі папярэдніх маршаў славілі Рамуальда Райса «Бурага», адказнага за пацыфікацыю вёсак на Гайнаўшчыне і Бельшчыне і смерць іх мірных жыхароў.

— Калі нават будуць арганізавацца ў Гайнаўцы іншыя мерапрыемствы памяці выклятым жаўнерам, чым маршы, нашай згоды таксама на іх не будзе. Такой згоды не будзе да часу, калі з ліку выклятых жаўнераў не будзе выключаны «Буры», якога лічым віноўным забойства мірных жыхароў нашых вёсак, у тым ліку дзетак і жанчын, — заявіў Марыюш Нічыпарук.

Прафесар Алег Латышонак паінфармаваў, што ў «Białoruskich Zeszytach Historycznych / Беларускім гістарычным зборніку» паявіцца рэцэнзія новых выданняў пра выклятых жаўнераў, у тым ліку пра «Бурага». Аднак трэба будзе яшчэ пачакаць, паколькі неабходна правесці падрабязны аналіз такіх выданняў. Пасля дакладу і дыскусіі гайнавяне прыдбалі матэрыялы датычныя праекта і выставы «Наша памяць», а ў скарбонку збіраліся сродкі на далейшую рэалізацыю гэтага праекта.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960 15